№ 15 (709) 20 красавіка 2011

www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Юрый Чыж: як становяцца мільянерамі

Старонка 9



## Нацбанк і рублі

Старонка 4

## Што можна насіць пад вопраткай

Старонка 11



## Для прадпрыемстваў курс даляра стане рынкавы

Але не для грамадзян.

Нацбанк здымае абмежаванні на курс даляра для юрыдычных асобаў. Нагадваем, што раней дазволенае адхіленне складала 10% ад афіцыйнага курса — улады марна спадзяваліся, што прадпрыемствы будуць прадаваць валюту за 3350 рублёў. Рэальна ж курс на міжбанку хутка пераваліў адзнаку ў 4000 рублёў і працягваў расці.

На наступным тыдні на біржы пройдуць першыя альтэрнатыўныя таргі, у якіх прымуць удзел усе ахвотныя прадпрыемствы. У банках мяркуюць, што курс можа скласці каля 3800—3900 рублёў за даляр.

Новаўвядзенне не змяняе сітуацыю для грамадзян, якія хочуць купіць валюту. Курсы наяўнай валюты па-ранейшаму застануцца прывязанымі да афіцыйнага курса. У свабодным продажы яна так і не з'явіцца, бо банкам нявыгадна прадаваць даляры і еўра па заніжаным курсе.

**Яўген Васількоў**

«Дагаворны курс» павінен распаўсюджвацца і на рынак наяўнай валюты.

**Старонка 7.**

# Таямніца следства

Падазраваныя названы, але застаюцца пытанні. Галоўнае з іх: ці магла група тэрарыстаў-аматараў 6 гадоў заставацца незаўважнай для спецслужбаў? І калі так, то чаму?

**Старонка 8.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Новая плітка паказвае месца, дзе была варонка.**

АФІЦЫЙНА

# «НН» атрымала папярэджанне
## Мініфармацыі за публікацыю пра выбух

Міністэрства інфармацыі накіравала ў адрас рэдакцыі папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння нормаў закона «Аб сродках масавай інфармацыі», паведамляе БЕЛТА. Сама Рэдакцыя яго яшчэ не атрымала.

«Падставай для папярэджання стала публікацыя на старонках газеты недакладнай інфармацыі аб тым, што адна з ахвяраў тэракта 11 красавіка нібыта знаходзілася на станцыі да позняга вечара», — лічаць прадстаўнікі Мініфармацыі.

На думку Мініфарма, «распаўсюджванне гэтай інфармацыі прычыняе шкоду грамадскім інтарэсам, дыскрэдытуе органы дзяржаўнай улады, выратавальныя і медыцынскія службы, якія бралі ўдзел у аказанні дапамогі пацярпелым у выніку тэракта».

Таксама Міністэрствам інфармацыі 15 красавіка было вынесена папярэджанне ў адрас рэдакцыі газеты «Народная воля» ў сувязі з «распаўсюджваннем выдуманем звестак, якія не адпавядаюць рэчаіснасці і ганяць дзелавую рэпутацыю Белтэлерадыёкампаніі».

Што датычыць гісторыі з Марынай Шубіч, мы падаём удакладненую інфармацыю **(глядзі ніжэй)**. Ранейшая публікацыя была заснаваная на звестках, атрыманых намі ад сяброўкі Марыны. Яна паведаміла нам, што дзяўчына пазней за іншых трапіла ў шпіталь. Сяброўка грунтавалася на тым, што бачыла.

Але на наступны дзень у бальніцы медперсанал прадэманстраваў афіцыйны запіс у журнале: там адзначана, што Шубіч трапіла ў бальніцу ўжо ў 18.30.

Сяброўка ж Марыны цяпер катэгарычна адмаўляецца гутарыць з журналістамі.

Разнабой можа тлумачыцца шокавым станам відавочцаў у той дзень. Прычынай памылкі магла стаць таксама тая акалічнасць, што целы нежывых людзей заставаліся ў метро да позняга вечара. У прыватнасці, яны заставаліся там і тады, калі метро наведваў Аляксандр Лукашэнка. Магчыма, сябры параненай Шубіч пабылталі яе з кімсьці?

Просім прабачэння, калі мы дапусцілі памылку. Не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць.

Ці заслугоўвае наша праца папярэджання?

Прывядзём такі прыклад. Кампетэнтныя органы спачатку памылкова ўключылі дзве асобы ў спіс памерлых і апублікавалі іх імёны. Уяўляеце шок іх блізкіх? Дзяржаўныя СМІ распаўсюдзілі гэты спіс. Ці і ім дало папярэджанне Міністэрства інфармацыі? Відома, не. Бо і няма за што — сітуацыя ж асаблівая.

У стрэсавай сітуацыі пасля выбуху «Наша Ніва» давала шмат інфармацыі, карыснай для грамадства, рабіла тое хутка, чым заслужыла падзякі і павагу чытачоў.

Нашы матэрыялы дапамаглі людзям ацаніць сапраўдны маштаб трагедыі. Гэта толькі паспрыяла аператыўнасці прац, у тым ліку, і следчых органаў.

Стваралася ўражанне, што дзяржСМІ працавалі больш інертна — магчыма, чакалі ўказанняў зверху.

Першыя гадзіны пасля трагедыі мы стараліся даць максімум звестак як найхутчэй, каб выбух немагчыма стала замаўчаць — як дзяржаўныя СМІ ў свой час замоўчвалі Чарнобыль. Дый аб падзеях на Плошчы, аб магчымай дэвальвацыі ў дзяржаўных СМІ, на нашу думку, ідзе выключна прапаганда.

У той жа час на сваёй паласе «Каментары і меркаванні» газета дае выказвацца розным бакам, з іх рознымі ацэнкамі.

І што зусім незразумела — якім чынам тая наша публікацыя можа дыскрэдытаваць «органы дзяржаўнай улады». У той нататцы не даецца ацэнкі нічым дзеянням. Затое дзеянні медыцынскай і выратавальнай службаў былі высока ацэненыя ў рэдакцыйным каментары: ён быў прысвечаны іх аператыўнасці і прафесійнасці (глядзі мінулы нумар).

На нашу думку, нехта зрабіў з мухі слана. І нездарма. Мы расцэньваем папярэджанне як працяг палітыкі, скіраванай на застрашванне незалежных СМІ.

### Сцісла

• **Лукашэнка пад «шумок» звольніў уплывовых чыноўнікаў.** Пасаду намесніка старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта пакінуў Васіль Дземянцей. Афіцыйная фармулёўка — «у сувязі з пераводам на іншую працу». Дземянцей у свой час з'яўляўся першым намеснікам старшыні КДБ. Меў дачыненне да расследавання віцебскіх выбухаў у 2005 г. Прынамсі, каладваў, што «падазраваныя затрыманыя». У старшыні ДМК звольнены і яшчэ адзін намеснік — Леанід Досаў. Акрамя таго, «па пагадненні бакоў» пазбавіўся пасады намеснік старшыні Ваенна-прамысловага камітэта Алег Пафераў.

• **Двое навучэнцаў Акадэміі кіравання пры прэзідэнце затрыманыя за незаконны абарот алкаголю.** У будынку чыгуначнага вакзала станцыі Мінск-Пасажырскі былі затрыманыя 17-гадовы і 18-гадовы жыхары Мінска. У маладых людзей канфіскавана 15 літраў вадкасці з утрыманнем спірту без назвы і дзевяць пачкаў цыгарэт «Беламорканал» без акцызных марак. Паходжанне кантрабанды высвятляецца.

• **«Белтэлекам» зніжае з 20 красавіка кошт перадачы дадзеных для інтэрнэт-аператараў на 25%.** Інтэрнэт працягвае таннець у Беларусі.

**СМ**

## КДБ папярэдзіла рэдактара «Нашай Нівы» аб адказнасці за разгалошванне матэрыялаў следства...

18 красавіка галоўнага рэдактара газеты «Наша Ніва» выклікалі ў КДБ і папярэдзілі аб адказнасці за разгалошванне матэрыялаў следства па справе аб тэракце 11 красавіка.

За апошнія чатыры месяцы гэта ўжо сёмая сустрэча «Нашай Нівы» з КДБ — да гэтага прайшлі чатыры вобшукі, выманне тэхнікі, адзін допыт і адно наведванне для вымання фотаі відэаматэрыялаў. Цяжка ўявіць сабе, каб у такім рэжыме працавала нейкае выданне ў любой іншай еўрапейскай краіне.

Папярэднія выклікі пераважна былі ў рамках расследавання палітычна матываванай справы аб Плошчы.

«Наша Ніва» забяспечыла адно з самых поўных асвятленняў падзей 19 снежня і 11 красавіка..

## ...Пракуратура — за публікацыю выказванняў Барадача

Намеснік генеральнага пракурора Беларусі М.Кукліс вынес «Нашай Ніве» папярэджанне за публікацыю ў №14 артыкула «Палкоўнік Барадач: выбухоўку падклалі супрацоўнікі аднэй са спецслужб». Былы палкоўнік вайсковага спецназа выказваў у ім сваё меркаванне аб тым, што за тэрактам мог стаяць хтосьці ва ўладзе, зацікаўлены ў дэстабілізацыі абстаноўкі ў краіне.

На думку пракуратуры, такое меркаванне неабгрунтаванае. "Артыкул утрымлівае... паклёпніцкія выдумкі пра дзеянні праваахоўных органаў», мяркуе пракурор. У артыкуле пракуратура пабачыла дзеянні, «накіраваныя на дыскрэдытацыю беларускай дзяржавы». Інфармацыю ў артыкуле пракуратура разглядае як «недаставерную».

Папярэджанне можа быць абскарджана ў законным парадку.

### З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

Іспанскі кароль з каралеваю пасля тэракта на станцыі Аточа ў Мадрыдзе абняў на пахаванні кожнага з родзічаў пацярпелых. А іх, ахвяраў, было болей за 200 асоб...

А ў нас? Толькі і чуеш, што палітычныя спекуляцыі на крыві...

**Мікола Бусел**
**(Дуброва, Светлагорскі раён)**




### Самае чытанае на nn.by
**за 13 — 19 красавіка**

1. Лукашэнка: Падазраваныя прызналіся, гэта токар і электрык...
2. Поўнае відэа меркаванага тэрарыста: 9 хвілінаў, ад уваходу ў метро да выбуху
3. Лукашэнка наведваў метро, калі там яшчэ ляжалі нежывыя людзі — фота
4. Відавочца апісвае відэазапісы камер назірання метро
5. Па падазрэнні ў здзяйсненні тэракта затрымана ўжо пяць чалавек
6. Ісгэрыя ў лукашэнкаўскіх СМІ: «Апазіцыя — пасобнікі злачынцаў»
7. «Кастрычніцкая»: новая плітка выглядае як мемарыял
8. Тэрарыст на здымках камеры назірання метро
9. Кватэру галоўнага падазраванага ў тэракце абшукалі яшчэ шэсць гадоў таму
10. Крыніца: Урад легалізуе цэнявы абменны курс рубля

# Дактары абвяргаюць інфармацыю, што Шубіч паступіла ў бальніцу позна

**Паводле запісаў у прыёмным пакоі, яна была ў бальніцы ўжо а 18.30.**

На наступны дзень пасля выбуху ў мінскім метро у інтэрнэце з'явілася інфармацыя пра дзяўчыну, якая нібыта была дастаўленая ў бальніцу пазней. Яе надрукавала і «Наша Ніва».

Аднак у прыёмным аддзяленні бальніцы ёсць запіс, што дзяўчыну прывезлі на хуткай у 18:25 — 18:30. «Усе яны пачалі прыязджаць першыя ў 18:10, потым у 18:20, у 18:45. Напэўна, апошні дзесьці ў 19:20», — паказвае журнал з запісамі загадчыца аддзялення.

Галоўны доктар клінікі Уладзімір Комар кажа, што інфармацыя пра дзяўчыну — хлусня: «Пачынаючы ад супраўаджальнага ліста хуткай дапамогі, ад фіксавання выкліку самой хуткай дапамогі да паступлення да нас у прыёмны пакой і да моманту пачатку аперацыі, усё дакументальна пацверджана. Тое, што распаўсюджаная нейкая хлусліваая інфармацыя, — яна не адпавядае рэчаіснасці».

Словы дактароў пацвярджае той факт, што Шубіч фігуруе ў спісах параненых, дастаўленых у 3-ю бальніцу, размешчаным на сайце «Нашай Нівы» а 21.26. Наш рэпарцёр спісваў яго асабіста каля бальніцы.

Сведчанні яе сяброўкі, якая казала, што «бачыла, як Шубіч выносілі, а 23-й гадзіне», можна аднесці на рахунак шокавага стану людзей пасля выбуху.

Гэта не адзіны выпадак памылак у стрэсавай сітуацыі пасля выбуху. Так, нават кампетэнтныя органы спачатку памылкова ўключылі дзве асобы ў спіс памерлых і апублікавалі іх імёны.

У Марыны — чэрапна-мазгавая траўма цяжкой ступені, мноства асколачных ран, перелом нагі. Ёй праведзена аперацыя на вачах.

Просім прабачэння за недакладнасць інфармацыі.

Застаецца пажадаць спадарыні Шубіч найхутчэйшага выздараўлення, а дактарам і ратавальнікам яшчэ раз выказаць падзяку за самаадданую працу.

**Рэд.**



### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

В.С., Інэсе Б., Алене М., Мікалаю С., І.С., В.Ц., Таццяне К., В.Ч., Ірыне М., Зоі М., Валянціне Ш., Л.Г., Г.Г., Р.П., Таццяне Ж., Юліі П., Мікалаю Д., Л.Ю., В.Г., Святлане Х., Міхаілу Е., Вікторыі Ш., Алене М., Ружане Б., К.М., А.З., Уладзіміру Г., В.С., Валянціне Г., Сяргею К., Р.Б., Вользе П., І.З., Ю.В., Анатолю Р., Леаніду Г., Георгію Ш., Ніне Ш., В.Б., Леаніду І., Наталлі Л., Мікалаю К., Станіславу Р., Ф.П., Але К., В.К., Алене Д., Наталлі М., Т.К., Алене Л., Н.Ш., А.Г., А.С., Валянціне Н., Валянціне Л., К.М., Алене М., Анатолю К., Аляксандру С., Міхаілу Ж. Леаніду Л., М.А., Ірыне В., Ірыне Ц., Я.А., Я.Ш., Ю.Л., Паўлу Ч., А.С., Ігару Л., Наталлі М., Аляксандру П., Леаніду Г., Анастасіі С., Аляксандры К. з Мінска.

# Лукашэнка: Мразь, падонкі, ідыёты, пятая калона

Аляксандр Лукашэнка чарговы раз абрынуўся на апазіцыю.

«Не трэба тут наводзіць цень на пляцень, — Лукашэнка абверг падазрэнні ў датычнасці ўладаў да тэракта. — Гэта ўсё адно, што, калі палец баліць, каб вылечыць яго, — адарваць сабе галаву. Якім ідыётам трэба быць, каб, напрыклад, мне перакрэсліць усю сваю працу. Бо і я нямала зрабіў для таго, каб у нас было спакойна, нармальна жыць у Беларусі, і гэта — брэнд нашай краіны». «І мне што, трэба было падарваць метро, каб усе сказалі: ну вось, Лукашэнка, дзе твая стабільнасць і спакой?»

Кіраўнік дзяржавы назваў «падонкамі» тых, хто заяўляе аб датычнасці ўладаў да тэракта. Па яго ных словах, толькі ідыёты могуць падобным чынам разважаць. Сёння сітуацыя ў краіне «не крытычная, каб пайсці на крайнія меры», — дадаў ён.

«Вы абыходзьце гэтых людзей [якія кажуць, што ўлада магла падобным чынам зрабіць] бокам — яны кажуць так, як яны б зрабілі. Запомніце — гэта страшныя людзі».

У той жа час Аляксандр Лукашэнка заявіў, што падзеі ў Мінску не стануць падставай для расправы над апазіцыяй. «Гэта — блеф, гэта лухта поўная», — заявіў ён і патлумачыў гэта сваімі прынцыпамі: «Я занадта самаўпэўнены, ганарлівы чалавек, я не дазволю сабе такімі метадамі глядзець на гэтую мразь».

Ён ізноў не адбіраў слоў для характарыстыкі сваіх палітычных праціўнікаў: «Сёння ў іх ідзе мышкаванне, барацьба, хто будзе лідарам. Гэтых, так званых новай хвалі, няма. Павылазілі Багданкевіч, Кебіч, Казулін, Лябедзька, якога, дарэчы, выпусцілі з турмы [афіцыйна рашэнне прымалася следчымі органамі — «НН»], а ён сёння вякае», — грымеў Лукашэнка. «Гэта ж падонкі. Скажыце лепш дзякуй, што гэты прэзідэнт вас выпусціў з камеры!»

Ён чарговы раз назваў сваіх апанентаў і «пятай калонай». Заўважым, што ў дэмакратычных краінах папулярныя палітыкі не дазваляюць сабе такіх выразаў на адрас праціўнікаў.



Людзі нясуць кветкі да станцыі метро «Кастрычніцкая».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Дарэчы, нейкім чынам трапіў у спіс «падонкаў» і былы прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч, які актыўнай дзейнасцю даўно не займаецца. Сам Кебіч на гэта сказаў, што ён «не мышкуецца і ў турме не сядзеў». Старшыня АГП Анатоль Лябедзька сказаў, што дарие Лукашэнку і ў суд падаваць на яго не будзе.

Лукашэнка чарговы раз заявіў, што сярод апазіцыі «ёсць і баевікі». Такімі ён лічыць удзельнікаў хрысціянска-дэмакратычнай арганізацыі «Малады Фронт». «Мы іх ведаем, асабліва маладафронтаўцы, іншыя незарэгістраваныя арганізацыі».

Лідар Беларусі абурыўся за выказванні некаторых апазіцыйных палітыкаў, што «тэракт — гэта спроба адцягнуць увагу ад эканамічных і валютных праблем». Пры гэтым напярэдадні сам Лукашэнка звязаў адсутнасць валюты, праблемы з прадуктамі і тэракт у адзін ланцуг.

**Сяргей Гезгала, Зміцер Панкавец**

# Кудрын працягвае карміць абяцанкамі

Выратавальны крэдыт можа прыйсці цягам месяца.

Расія сумесна з Міжнародным валютным фондам гатовыя аказаць дапамогу Беларусі ў сувязі з аплатным крызісам у краіне, але толькі ў тым выпадку, калі ўрад будзе гатовы працягнуць рэформы, заявіў міністр фінансаў Расіі Аляксей Кудрын у Вашынгтоне.

Кудрын нагадаў, што раней МВФ прапаноўваў Беларусі праграму дапамогі, якая засноўвалася на канкрэтных і дастаткова жорсткіх рэформах.

«Праграма была жорсткай, нават больш жорсткай, чым мы маглі б папрасіць, — гэта і замарожванне заробкаў, і скарачэнне расходу бюджэту, і павышэнне тарыфаў на энерганосьбіты ўнутры краіны. Але ўраду Беларусі здалося, што яны пераважылі праблемы, і пасля завяршэння праграмы [беларускія ўлады] перайшлі тыя абмежаванні, якія ствараліся гэтай праграмай. Нам хацелася б дапамагчы Беларусі. Мы лічым, што гэтыя важныя рэформы павінны быць прадстаўлены ў праграме ўрада Беларусі, і тады Расея прыме ўдзел у падтрымцы», — сказаў міністр, выступаючы на форуме па расейска-амерыканскіх адносінах.

Паводле яго слоў, Расія абмяркоўвае з МВФ пытанні аказання дапамогі Беларусі і гатова «выступіць першым эшалонам падтрымкі». «Спадзяёмся, што пасля гэтага падрыхтуюцца ўмовы для ўдзелу МВФ», — падкрэсліў Кудрын.

«Я ведаю, што МВФ цяпер не гатовы даць новую праграму, па крайняй меры, пакуль усе рашэнні па зніжэнні дэфіцыту бюджэту, па курсавой палітыцы не будуць зноў уключаны ў планы ўрада і не будуць прынятыя. Золатавалютныя рэзервы Беларусі зніжаюцца, і я ведаю, што ўрад Беларусі гатовы да рэформаў. Наколькі гэтая рашучасць будзе рэалізавана, я не магу сцвярджаць дакладна», — заявіў расійскі міністр.

Паколькі заява была зробленая ў Вашынгтоне, то многія паспяшаліся ўбачыць у гэтым дамову паміж Расіяй і ЗША па беларускім пытанні.

Тым не менш, па вяртанні на Радзіму Кудрын сказаў ужо зусім іншае. Маўляў, крэдыт можа паступіць у беларускі бюджэт цягам месяца. «Праўда, перамовы могуць быць цяжкімі».

Выглядае, што ў Кудрына былі падрыхтаваны дзве версіі адказаў на пытанні пра беларускі крэдыт. Адна — для заходніх слухачоў, другая — для ўнутранага карыстання.

Паводле намесніка старшыні Нацбанка Мікалая Лузгіна, перамовы аб выдзяленні Беларусі крэдыту выйшлі ў вырашальную стадыю. Беларускія ўлады чакаюць расійскі крэдыт, каб выйсці з фінансавай нестабільнасці апошняга часу.

**ЗП**

# «Чарнобыльскі шлях»: без шэсця

У аўторак у Мінгарвыканкаме прайшла сустрэча заяўнікаў штогадовай вулічнай акцыі «Чарнобыльскі шлях» з гарадскімі ўладамі.

На ёй прысутнічалі старшыня аргкамітэта «Чарнобыльскага шляху» Юрый Хадыка і сакратар Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Дзяніс Садоўскі.

Першапачаткова заяўнікі прасілі 26 красавіка ў 18:00 збор на пляцоўцы ля Акадэміі навук і далейшае шэсце па Сурганава да Чарнобыльскай капліцы. Па такім маршруце праходзілі апошнія «Чарнобыльскія шляхі».

Дзяніс Садоўскі кажа, што ў гарвыканкаме ім выдалі паперу, дзе гаворыцца, што «Акадэмія навук не можа быць месцам масавых акцый, бо знаходзіцца бліжэй, чым за 200 метраў ад метро».

Садоўскі ўдакладніў, чаму тады летась збор на Акадэміі дазволілі. Адказ быў прыкладна такім: тады вырашылі дазволіць, а цяпер — не. Без асаблівага тлумачэння.

У выніку заяўнікам дазволілі толькі мітынг ад 18 да 20 у Парку Дружбы народаў, нават не каля Чарнобыльскай капліцы. Паводле прадстаўніка БХД, у сераду яны збіраюцца размаўляць з міліцыяй, каб людзям дазволілі сабрацца ля капліцы. Дзяніс Садоўскі лічыць адмову Мінгарвыканкама незаконнай.

**ЗП**

# Януковіч выбраў Барозу, але і Лукашэнку таксама

У сталіцы Украіны 19 красавіка пачаўся міжнародны саміт, прысвечаны 25-годдзю катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Лукашэнкі сярод гасцей няма.

Справа ў тым, як толькі стала вядома пра саміт і магчымае запрашэнне Лукашэнкі, то запратэставаў старшыня Еўракамісіі Жазэ Мануэль Барозу. Ён сказаў, што не хоча знаходзіцца на адным мерапрыемстве з кіраўніком Беларусі.

Выглядае на тое, што ўкраінцы выбралі Барозу. Таксама ў гэтыя дні ў Кіеве старшыня ААН Пан Гі Мун, генеральны сакратар Рады Еўропы, кіраўнік МАГАТЭ, прэзідэнты Польшчы, Казахстана, Венгрыі, Харватыі. ЗША будзе прадстаўляць інтэлектуал Збігнеў Бжазінскі.

Тым не менш, асобная праграма для Лукашэнкі таксама плануецца. Ён наведае Украіну ў іншы дзень. 26 красавіка прэзідэнты Украіны, Расіі і Беларусі наведаюць Чарнобыль.

**ЗП**

## Сціслa

• **У Маладзечне пераносяць камень «Пакутнікам за волю і незалежнасць».** Пра гэта «НН» паведаміў маладзечанец Валянцін Цішко. Валун-помнік перавезлі ў цэнтральны парк. Пакуль невядома, дзе ён там будзе ўсталяваны. На цэнтральнай плошчы горада яго ў свой час паставілі пры мэру Генадзю Карпенку. Цяпер жа ён «не ўпісаўся» ў канцэпцыю рэканструкцыі цэнтра да будучых «Дажынак».

• **Шушкевіч зноў намінаваны на Нобелеўскую прэмію.** З гэтай ініцыятывай выступіў Эмануэліс Зінгерыс, старшыня Камісіі па міжнародных справах Сойма Літвы. Разам з ім на атрыманне Нобелеўскай прэміі міра намінаваныя палітыкі, якія падпісалі Белавежскія пагадненні ў 1991 годзе, — былы прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук і былы дзяржаўны сакратар Расійскай Федэрацыі Генадзь Бурбуліс.

**ЗП**

# Пракаповіч перанёс складаную аперацыю на сэрцы

Ягоныя абавязкі перайшлі да «ціхага выканаўцы» Юрыя Алымава.

Месяц таму Пётр Пракаповіч аптымістычна абяцаў: «Пакуль я з'яўляюся старшынёй праўлення Нацбанка, ніякай разавай аднамомантавай дэвальвацыі ніколі не будзе». Цяпер «умова» стабільнасці знятая — фактычна Герой Беларусі больш не кіруе галоўным банкам краіны.

Як стала вядома, Пётр Пракаповіч яшчэ некалькі дзён таму знаходзіўся ў РНПЦ «Кардыялогія». «Гэта праўда, — пацвердзіў інфармацыю дырэктар медыцынскага цэнтра акадэмік Аляксандр Мрочак. — Аперацыя была складанай. Пракаповічу замянілі сардэчны клапан. Але ўсё прайшло ўдала». Пасля выпіскі Пракаповіч мае адправіцца на доўгую рэабілітацыю ў санаторый для сардэчнікаў «Аксакаўшчына», што пад Ракавам, за 30 кіламетраў ад сталіцы.

### Першы сярод роўных

Пасля аперацыі старшыні Нацбанка ягоныя паўнамоцтвы перайшлі да двух першых намеснікаў: Юрыя Алымава і Мікалая Лузгіна. Па словах кіраўніка ўпраўлення інфармацыі Нацбанка Анатоля Драздова, абавязкі Пракаповіча выконвае менавіта Алымаў. Лагічна, калі ўлічыць, што менавіта ён некалькі тыдняў таму адпраўляўся разам з міністрам фінансаў Андрэем Харкаўцом «выбіваць» грошы з Расіі.

Алымаў — абсалютна непублічная асоба. Дастаткова сказаць, што ва ўсім інтэрнэце знаходзяцца два здымкі банкіра. Больш спасылак знойдзеш нават пра ягонага поўнага цёзку — лідара падмаскоўнай злачыннай групоўкі. Дый інфармацыя пра тое, што менавіта ў ягоныя рукі перайшла ўлада ў Нацбанку, нават не з'явілася ў дзяржаўных СМІ.



Юрый Алымаў.

### Кіргізская радзіма, расійская адукацыя

Юрый Алымаў нарадзіўся ў 1957 годзе на тэрыторыі цяперашняга Кыргызстана. Скончыў Ленінградскі фінансава-эканамічны інстытут імя Вазнясенскага, пасля чаго ў 1985 годзе адправіўся працаваць у беларускі Светлагорск. Там ён зрабіў кар'еру, падняўшыся ад старшага эканаміста Светлагорскага гарадскога фінансавага аддзела да намесніка старшыні Светлагорскага гарвыканкама на пачатку незалежнасці. У 1993–1997 Алымаў быў намеснікам гомельскага абласнога кіраўніка «Беларусбанка», далей пераехаў у Мінск, стаўшы намеснікам старшыні банка.

Як і Пракаповіч, Алымаў прыйшоў у Нацбанк у 1998 годзе. Праз тры гады стаў першым намеснікам кіраўніка галоўнага банка краіны. У свой час Алымаў атрымаў другую вышэйшую адукацыю, скончыўшы Акадэмію кіравання пры Савеце Міністраў.

### «Ціхі выканаўца»

Што пра Алымава мяркуе былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч? Якіх пазіцый прытрымліваецца банкір?

«Гэта ціхі выканаўца, пра якога я не магу сказаць нічога — ні добрага, ні дрэннага», — спрабуе ўзгадаць хоць нешта Багданкевіч. Па яго словах, ад Алымава ніколі не сыходзіла ніякай ініцыятывы. А вось іншага намесніка, Мікалая Лузгіна, Багданкевіч хваліць: «Я ведаю, што Лузгін — рыначнік, сапраўдны прафесіянал сваёй справы. Такіх засталося няшмат, яшчэ хіба што Павел Калавур, якога цяпер прызначылі кіраваць «Белзнешэканомбанкам». Гэта мае вучні».

### На каго «павесяць» дэвальвацыю?

Фінансісты прызнаюць, што прынцыповага адрознення паміж Пракаповічам і Алымавым не будзе — усё роўна старшыня Нацбанка ў цяперашняй Беларусі далёка не самастойная фігура. Але наколькі магчыма, што Алымаву даручаць пачынаць кіраўніцтва з абвалу? «Цалкам рэальна, — каментуе сітуацыю незалежны эканаміст Сяргей Чалы. — Алымаў у гэтай сітуацыі — найлепшы варыянт, бо ў яго менш за ўсіх ідэалагічных «заскокаў».

**Яўген Васількоў**

## Стаўка рэфінансавання — 13%

Падаражэюць крэдыты, але вырастуць і стаўкі па дэпазітах.

З 20 красавіка стаўка рэфінансавання павялічылася на 1% і склала 13%. Апошняе павелічэнне адбылося 16 сакавіка, тады стаўка вырасла на 1,5%. Гэта прывяло да масавых чутак аб дэвальвацыі.

Летась Нацбанк шэсць разоў зніжаў стаўку рэфінансавання на 0,5%.

Рост стаўкі рэфінансавання павялічыць прыбытак ад рублёвых укладаў. Гэта, на думку прадстаўнікоў Нацбанка, заахвоціць людзей вяртаць у банкі дэпазіты, забраныя апошнім часам. Разам з тым, павялічацца і стаўкі крэдытаў.

**ЯВ**

## Перадапошнія сярод суседзяў




«Ценявы» курс даляра з'ядае сярэдні заробак беларусаў.

Беларусь па-ранейшаму займае перадапошняе месца сярод суседніх краінаў па памеры сярэдняга заробку. Адставанне складае некалькі разоў, у залежнасці ад таго, на які курс даляра арыентавацца.

Калі верыць афіцыйнай статыстыцы і Нацбанку, то сярэдні заробак беларусаў за люты (апошнія дадзеныя) складае $470. Калі ж пералічваць даляр па шэрым курсе 3900 рублёў, то ў кішэні беларуса застаецца ўсяго $370. Пры такім падыходзе сярэдні заробак у Беларусі вяртаецца на ўзровень гадавой даўніны. Такі ж паказчык быў і за год да аднамомантавай дэвальвацыі пачатку 2009 года.

Што ж у суседзяў? Менш за беларусаў усё яшчэ атрымліваюць украінцы. А вось астатнія суседзі адарваліся як мінімум у два разы.

Расія мае сярэднестатыстычныя $750.

Заходнія суседзі яшчэ багацейшыя. Літоўцы з латышамі трымаюцца прыкладна на адным узроўні, з невялікай перавагай Латвіі, але абедзве краіны не могуць вярнуцца да дакрызісных заробкаў. Тады прыбалты атрымлівалі каля $1000. Лідары рэгіёна — палякі. Іх сярэдні заробак складае каля $1260.

Нагадваем, што заробкі прыведзеныя без выліку падаткаў.

**ЯВ**

## Бізнэсу развязваюць рукі

Дзяржава спрабуе трымаць толькі цэны на прадукты.

У Беларусі адмененыя абмежаванні для імпарцёраў па цэнаўтварэнні. Ранейшы працаваў ліміт надбаўкі не большай за 30%, цяпер яго не будзе. Выключэнне застаецца толькі для прадуктаў.

Заадно былі адмененыя некаторыя ранейшыя пастановы, якія датычыліся цэнаўтварэння. Напрыклад, больш не рэгулююцца цэны на паслугі па ўсталёўцы ахоўнай сігналізацыі і праходжанні тэхагляду для аўтамабіляў.

Чарговыя захады па лібералізацыі эканомікі ў беларускіх умовах прыводзяць да адзінага выніку — падаражанняў. Напрыклад, літаральна за тыдзень кошт упакоўкі памперсаў падняўся на 25 тысяч рублёў. А «адпушчаны» тэхагляд у першы ж дзень падаражаў на 26%.

**ЯВ**

## Нацбанк не дае веры беларускім рублям

Ад 15 красавіка залатыя зліткі можна купіць толькі за валюту.

Нацыянальны банк змяніў правілы продажу каштоўных металаў. Цяпер, згодна з неабвешчанай інструкцыяй, мерныя зліткі «часова» могуць быць купленыя банкамі і насельніцтвам толькі за валюту. Унутранае рашэнне супярэчыць Банкаўскаму кодэксу, які сцвярджае, што адзіным законным плацёжным сродкам у Беларусі з'яўляецца беларускі рубель.

Раней «Прэйскурант цэн на мерныя зліткі», як бязграматна названы ён Нацбанкам, утрымліваў цэны як у беларускіх рублях, так і ў доларах. Прычым курс пераліку прымяняўся афіцыйны — 3045–3050 рублёў. Цяпер засталіся толькі цэны ў долярах.

Насельніцтва ўспрымала золата і срэбра як альтэрнатыву дэфіцытнай валюце. Аб'ём продажу залатых зліткаў у I квартале 2011 года вырас у 4 разы супраць I квартала 2010 года і склаў 680 кілаграмаў. Даходзіла да таго, што беларусы прапаноўвалі літоўцам расплаціцца за аўто зліткамі з золата.

**ЯВ**

## Статыстычная хіба

Лукашэнка, мякка кажучы, памыліўся.

«У Беларусі складскія запасы прадукцыі за апошнія тры месяцы скараціліся на 25%», — заявіў Аляксандр Лукашэнка падчас прамовы на «суботніку».

Белстат, аднак, дае зусім процілеглыя звесткі — за студзень—сакавік аб'ём запасаў вырас з 5 да 6,72 трыльёна рублёў. Замест змяншэння на 25% насамрэч адбылося павелічэнне на 34%!

**ЯВ**

## Сцісла

- **«Беларусь не зможа пазбегнуць дэвальвацыі»**, — такую думку выказаў кіраўнік расійскага «Апчадбанка» Герман Грэф. Ён перакананы, што гэта будзе добра для эканомікі.
- **Інфляцыя выканала гадавы план да сярэдзіны красавіка.** Паводле падлікаў Белстата, за 12 дзён красавіка цэны выраслі на 1,7%. Лідарамі падаражання сталі капуста (19%), проса (11%) і алей (9%). У цэлым ад пачатку года спажывецкія цэны выраслі на 7,9% пры гадавым прагнозе 7,5—8,5%. Незалежныя эканамісты лічаць, што рэальны рост яшчэ вышэйшы за афіцыйныя паказчыкі.
- **За сакавік аб'ём пратэрмінаваных крэдытаў у валюце вырас у 2,5 разу.** На 1 красавіка аб'ём пратэрмінаванай запазычанасці банкаў і кліентаў па крэдытах і іншых аперацыях дасягнуў 172,4 мільярда рублёў. Па афіцыйным курсе даляра гэта складае каля $56 мільёнаў. Яшчэ месяц таму гэты паказчык складаў 71,7 мільярда рублёў ($24 мільёны). Дэфіцыт валюты прывёў да таго, што літаральна за месяц запазычанасць павялічылася ў два з паловай разу.
- **Усё для вашага здароўя.** Беларусь павялічыць мінімальныя цэны на гарэлку і спірт. З 31 мая рознічны кошт гарэлкі складзе 9400 рублёў за бутэльку. Рост цаны складае амаль 10%. Падаражалі і цыгарэты. З 16 красавіка цэны на тытунёвую прадукцыю фабрыкі «Нёман» выраслі на 2—20%.

**ЯВ**

# Палітычны працэс

**Зняволеных за Плошчу будуць судзіць вялікімі порцыямі.**

На фінальную стадыю выходзіць крымінальная справа супраць удзельнікаў падзеяў на Плошчы 19 снежня. Матэрыялы справаў усіх палітвязняў, што знаходзяцца за кратамі, ужо перададзеныя ў суды. Не выключана, што працэсы пачнуцца ў адзін дзень. Тым не менш, даты разгляду яшчэ не прызначаныя.

У першай крымінальнай справе аб'яднаныя кандыдаты ў прэзідэнты Мікола Статкевіч, Дзмітрый Ус, а таксама шараговыя дэманстранты Андрэй Пазняк, Аляксандр Класкоўскі, Аляксандр Квяткевіч, Арцём Грыбкоў і Зміцер Буланаў. Апошні меў за кратамі вялікія праблемы са здароўем, у яго хвароба суставаў. Толькі нядаўна яго выпісалі з турэмнага шпіталя.

Класкоўскага, апроч масавых беспарадкаў, таксама будуць судзіць па арт. 369 «Знявага прадстаўніка ўлады» і арт. 382 «Самавольнае прысваенне звання або ўлады службовай асобы». Класкоўскі выйшаў на Плошчу ў міліцэйскай форме. Тым часам ад Міколы Статкевіча ўжо два тыдні няма лістоў.

Уладзімір Хамічэнка (агент «Навушнік»), архівіст Зміцер Дрозд, маладафронтавец з Гродна Алесь Кіркевіч, Андрэй Пратасеня, Павел Вінаградаў аб'яднаныя ў іншую справу. Вельмі стракатая кампанія. Дрозд працаваў у выбары на Саннікава, Вінаградаў — на Някляева, Кіркевіч дапамагаў Статкевічу. Няўжо ўсе яны дзейнічалі ў папярэднай змове?

Вінаградаў, апроч асноўнага артыкула, абвінавачваецца яшчэ ў абразе нацыянальных сімвалаў (спаліў пудзіла Лукашэнкі — магчыма, з чырвона-зялёнымі атрыбутамі).

Кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў будзе праходзіць па справе разам з Іллёй Васілевічам, Алегам Гнедчыкам, Фёдарам Мірзаянавым, Уладзімірам Яроменкам. Саннікаў абвінавачваецца ў арганізацыі беспарадкаў, астатнія — ва ўдзеле.

Бацька Фёдара Мірзаянава — расіянін. Ён звярнуўся да пасольства гэтай краіны, каб яны назіралі за гэтым працэсам.

А вось жонка Саннікава Ірына Халіп будзе праходзіць у адной справе з сустаршынёй БХД Паўлам Севярынцам і сацдэкам Сяргеем Марцалевым. Паводле мамы Ірыны Люцыны Халіп, яе дачка нават не ведае асабіста Марцалева, але нешта супольнае ў іх крымінальнай справе знайшлі. Гэтай «тройцы» абвінавачванне было перакваліфікаванае з «масавых беспарадкаў» у «дзеянні, што груба парушаюць грамадскі парадак».

Па такім самым артыкуле будуць судзіць Уладзіміра Някляева, Андрэя Дзмітрыева, Аляксандра Фядуту, Насту Палажанку, Віталя Рымашэўскага і Сяргея Вазняка. Апошняму інкрымінуюць яшчэ «заведама лжывыя паказанні».

А вось Змітра Бандарэнку (каардынатар «Хартыі-97») чамусьці вылучылі асобна. На мінулым тыдні Змітру дазволілі спатканне з жонкай Вольгай. Бандарэнка перадаў праз Вольгу, што бачыць толькі адзін шлях вырашэння эканамічных і палітычных праблем у краіне, — вызваліць вязняў і садзіцца за стол перамоваў.

Ну і ўрэшце, яшчэ па адным працэсе будуць праходзіць Дзмітры Даронін, Сяргей Казакоў, Уладзімір Лобан, Віталь Мацукевіч, Яўген Сакрэт, Алег Федаркевіч.



У дзень выбараў дзясяткі тысяч людзей выйшлі на вуліцы, каб пратэставаць супраць парушэнняў правоў чалавека і крадзяжу галасоў.

PHOTO.BYMEDIA.NET

Такім чынам, ужо бліжэйшым часам чакаецца сем палітычных працэсаў. Няясны лёс тых палітыкаў, што былі вызваленыя з СІЗА, але абвінавачванні супраць якіх не былі зняятыя (Анатоль Лябедзька, Алег Корбан, Аляксандр Арастовіч, Уладзімір Кобец, Анатоль Паўлаў). Паўторныя абвінавачванні супраць гэтых людзей вылучаныя не былі.

Кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч і рэдактарка сайта «Хартыя-97» Наталля Радзіна выехалі за межы краіны, таму за адсутнасцю абвінавачаных судовыя працэсы супраць іх наўрад ці адбудуцца. Дарэчы, месцазнаходжанне Радзінай па-ранейшаму невядомае.

Падвешаны стан яшчэ ў аднаго кандыдата ў прэзідэнты — Рыгора Кастусёва. З яго не здымаюць статус падазраванага ў справе, але і не прад'яўляюць абвінавачванні. У Кастусёва праз гэта ўзнікаюць складанасці. Ён працуе ў Расіі, але не можа выехаць за мяжу, бо знаходзіцца пад падпіскай.

Яшчэ восем чалавек па справе 19 снежня ўжо былі асуджаныя. Частка з іх ужо адбывае пакаранне ў калоніях. Аляксандр Атрошчанкаў — у «Віцьбе», Аляксандр Малчанаў — у Магілёве, Зміцер Новік — у Бабруйску, Васіль Парфянкоў — у Оршы. Мікіта Ліхавід чакае разгляду касацыйнай скаргі.

Зміцер Мядзведзь знаходзіцца на «хатняй хіміі», а грамадзяне Расіі Арцём Брэус і Іван Гапонаў абышліся штрафамі.

Агулам па крымінальнай справе за ўдзел у Плошчы праходзіць 48 чалавек. Зміцер Дашкевіч і Эдуард Лобаў былі асуджаныя па паралельнай справе асобна. Яшчэ некалькі чалавек расшукваліся ў рамках крымінальнай справы аб Плошчы, але паспелі схавацца за мяжой.

**Зміцер Панкавец**

# Гродзенскі журналіст выбраў турму «дзеля дзяцей»

**Андрэй Пачобут адзначыў дзень нараджэння ў вязніцы. Яго вінавацяць у паклёпе на Лукашэнку.**

У суботу 16 красавіка карэспандэнт польскай Gazety Wyborczej Андрэй Пачобут адзначыў 38-годдзе. Дзень нараджэння ён правёў за кратамі СІЗА гродзенскай турмы. Журналіста вінавацяць у абразе Лукашэнкі і паклёпе на яго.

Пачобут знаходзіцца ў турме ад 6 красавіка, калі ён быў затрыманы на дарозе ў Мінск, дзе збіраўся паўдзельнічаць у талемосце прадстаўніцтва Еўракамісіі з дэлегацыяй Еўрапарламента па сувязях з Беларуссю.

Андрэй Пачобут меў магчымасць з'ехаць з Беларусі, калі быў яшчэ ў статусе падазраванага па першай справе — за абразу кіраўніка краіны. Яго неадноўчы пыталі пра гэта калегі. Мог бы на час перапыніць пісаць, але замест гэтага апублікаваў у «Выборчэй» гутарку з Алесем Міхалевічам пад загалоўкам «Лукашэнка як тэрарыст». У гутарцы з карэспандэнтам радыё «Свабода» жонка журналіста Аксана Пачобут патлумачыла, чаму ён не з'ехаў і не перастаў пісаць вострыя артыкулы: «Казаў, што ён гэта робіць і дзеля дзяцей, каб яны не саромеліся, каб яны маглі ім ганарыцца ў будучыні».

Тым часам Gazeta Wyborcza разаслала ў міжнародныя журналісцкія і праваабарончыя арганізацыі, у замежныя СМІ ліст з патрабаваннем неадкладнага вызвалення Пачобута. Калі пад ім будуць сабраныя подпісы, ліст перададуць у пасольства Беларусі ў Варшаве.

**Сямён Печанко**

«Воля — не тое, што рукі развяжуць,
Зменяць на большую клетку малую.
Воля — не тое, што «вольны ты» скажуць.
Воля — то воля, якую адчую».
**Ларыса Геніюш**

Дзень нараджэння — добрая нагода падтрымаць палітвязня віншавальнай тэлеграмай альбо паштоўкай. Іх можна накіроўваць на адрас: 230023, Гродна, вул. Кірава, 1, СІЗА №1. Пачобуту Андрэю Станіслававічу.



# Рэдактара «Салідарнасці» дапыталі па справе выбуху ў метро

**Раней яго папярэдзілі за «распаўсюд неабгрунтаванай інфармацыі» аб выбуху ў метро.**

16 красавіка галоўнага рэдактара інтэрнэт-газеты «Салідарнасць» Аляксандра Старыкевіча дапыталі ў пракуратуры ў якасці сведкі па справе выбуху ў метро. Пры допыце прысутнічаў адвакат журналіста. Па словах Старыкевіча, яго выклікалі па тэлефоне, без позвы, але ён вырашыў ісці. Ён мяркуе, што пракуратура магла атрымаць загад дапытаць пэўнае кола асобаў.

Журналіст не выключае, што гэта звязана з загадам Лукашэнкі дапытаць усіх у рамках крымінальнай справы. «Магчыма, гэтыя так званыя палітыкі ад пятай калоны нам раскрыюць карты і пакажуць, хто ж замовіў? Можа, хтосьці з іх з уладаў? Усіх дапытаць. У межах крымінальнай справы ўсіх прыцягнуць і дапытаць, нягледзячы ні на якую дэмакратыю і крыкі і стогны замежных пакутнікаў. Матэрыялы ёсць. Бярыце, даследуйце, няхай тлумачаць, адкуль у іх гэта інфармацыя», — заявіў на мінулым тыдні Лукашэнка.



**СП**

# Будзімір спыніў галадоўку

**Эстафету пераняла іншыя блогеры, якія прапануюць галадаць «да поўнага вызвалення палітвязняў» па чарзе.**

18 красавіка на 20-ы дзень галадоўкі блогер Дзмітры Галко спыніў сваю акцыю. «Сёння, у юбілейны дваццаты дзень галадоўкі, я прыняў рашэнне яе спыніць. Нягледзячы на тое, што патрабаванні мае не былі выкананыя нават часткова, ніякіх «станоўчых сігналаў» ад улады я не атрымаў, а грамадска-палітычная сітуацыя за гэты час і зусім дайшла да ручкі», — напісаў у сваім блогу Будзімір. Ён патлумачыў, што не бачыць сэнсу працягваць палітычную галадоўку без салідарных дзеянняў.

«Скажыце шчыра, вы, тыя, хто з надзеяй чакаў вельмі верагоднага фатальнага зыходу маёй галадоўкі, хоць бы вас мая смерць прымусіла б выйсці на вуліцы і біцца да канца? Толькі не вам не хапае, каб напоўніцца рашучасцю? Баюся, не хапае чагосьці іншага. Неабавязкова «пораху ў парахаўніцах», проста сітуацыя не саспела, дый вас асабіста адчай не ўзяў за горла, межы «ўнутранай Манголіі» ўсё яшчэ досыць шырокія, эканамічна ў большасці з вас усё не так і дрэнна ... У любым выпадку, заведамае самагубства, у што непазбежна ператваралася бестэрміновая галадоўка без салідарных дзеянняў у падтрымку яе патрабаванняў, у мае планы не ўваходзіла».

Сваю акцыю блогер распачаў 30 сакавіка, патрабуючы вызвалення Мікіты Ліхавіда, асуджанага за ўдзел у падзеях 19 снежня. На 19-ы дзень галадоўкі блогерка petra-leleka прапанавала галадаць па чарзе. «Галадоўку трэба зрабіць агульнай, г.зн. эстафетнай. Гэта дазволіць працягваць яе да таго часу, пакуль сапраўды не будзе ў краіне выпушчаны апошні палітзняволены. Урэшце, сілы волі пагаладаць хоць бы адзін дзень хопіць у кожнага». Будзімір адгукнуўся на гэта ў сваім дзённіку наступным чынам: «Адважвайцеся. Нельга, каб пра палітвязняў забывалі».

**СП**

# Аляксандр Глеб:
## «Я не хачу заставацца ў «Бірмінгеме»

Пра гэта беларускі паўабаронца сказаў у інтэрв'ю брытанскай прэсе.



– Мне тут падабаецца бавіць час, але стыль футбола не зусім пасуе. «Барселона» — найлепшы клуб у свеце, але там цяжка сябе праявіць, калі ты не іспанец. Вядома, мне падабаецца «Арсенал», ён заўсёды ў маім сэрцы. Калі з'явіцца шанец вярнуцца ў «Арсенал», то я паспрабую яго выкарыстаць».

Аляксандр Глеб — найлепшы футбаліст Беларусі апошняга дзесяцігоддзя. Ягоны зорны час прыпаў на гульню ў складзе лонданскага «Арсенала», дзе ён быў адным з лідараў. Потым наш суайчыннік перайшоў у «Барселону», але так і не змог загуляць у славутым каталонскім клубе.

Апошнія два сезоны ў складах «Штутгарта» і «Бірмінгема» Глеб паказваў гульню, далёкую ад аптымальнай. Паводле трансферных чутак, актыўны інтарэс да беларуса праяўляе расійскі «Краснадар».

**Зміцер Панкавец**

### Спорт сцісла

- **Беларуская «класіка».** «Новы беларус» Рэнан Брэсан стаў аўтарам адзінага гола ў сустрэчы БАТЭ і мінскага «Дынама» (1:0). У нашым чэмпіянаце гэта два самыя прынцыповыя супернікі.
- **ФК «Баранавічы» бяруць у банку крэдыт,** каб заявіцца ў першую лігу чэмпіяната Беларусі па футболе. У шэрагу каманд ніжэйшых ліг у міжсезонне ўзніклі фінансавыя праблемы. Нясвіжскі «Верас» і шклоўскі «Спартак» былі ўвогуле вымушаныя зняцца з першынства.
- **Без Арамнава.** У Казані прайшоў чэмпіянат Еўропы па цяжкай атлетыцы. Беларусы на ім змаглі заваяваць тры залатыя медалі (адзін вялікі і два малыя ў асобных практыкаваннях) Настассі Новікавай. А таксама малыя медалі Станіслава Чадовіча (срэбра) і Міхаіла Аўдзеева (бронза). У агульным заліку нашы трэція. Больш медалёў толькі ў Расіі і Турцыі. Таленавіты беларускі атлет Андрэй Арамнаў прапускаў чэмпіянат праз дыскваліфікацыю за паленне марыхуаны.

**ЗП**

## «Куплю даляры!»

Такія аб'явы з'яўляюцца ў інтэрнэце ўсё часцей.

Гэтым разам рэклама дабралася да галоўнай старонкі самага папулярнага беларускага партала tut.by.

«Купім валюту на выгадных умовах! Буйны імпарцёр пастаянна зацікаўлены ў набыцці валюты на міжбанкаўскім рынку. Толькі для юрыдычных асобаў».

Рэальны курс даляра на міжбанку перавышае 4000 рублёў.

**Яўген Васількоў**




## На Вялікдзень сіноптыкі абяцаюць дажджы

24 красавіка святкаваць будуць праваслаўныя і каталікі разам.

Надвор'е можа падпсаваць Вялікдзень, які сёлета, як і год таму, разам святкуюць каталікі, праваслаўныя і пратэстанты. Цэлы тыдзень у Беларусі будзе суха і сонечна, а вось на выхадныя, згодна з папярэднімі прагнозамі сіноптыкаў, у Беларусь завітаюць дажджы. Яны пройдуць у Брэсце, Гомелі (тут чакаецца навальніца) і Гродне. Самае цёплае надвор'е чакаецца ў Брэсце — да 17 градусаў цяпла, самае халоднае — у Віцебску — да 13 градусаў.

Вялікдзень — дзень уваскрасення Ісуса Хрыста. Напярэдадні свята ці на самым яго пачатку людзі нясуць асвячаць у храм розныя стравы: хлеб, яйкі, пірагі, мяса, сыр, соль.

**СП**

## Інсцэнаваны Крыжовы шлях у Мінску прысвяцілі памяці ахвяраў выбуху ў метро

Трагедыя «павінна кансалідаваць, а не дзяліць наша грамадства», — заявіў мітрапаліт Кандрусевіч.

15 красавіка адбыўся інсцэніраваны Крыжовы шлях на Кальварыйскіх могілках у Мінску. Сёлета яго прысвяцілі ахвярам тэракта ў мінскім метро 11 красавіка.

Па сканчэнні інсцэніроўкі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, правёў святую імшу.

«Гэта сімвалічна, што ў Мінску ёсць Кальварыя. Метро стала новай мінскай Кальварыяй», — адзначыў мітрапаліт. На яго думку, трагедыя ў метро «павінна кансалідаваць, а не дзяліць наша грамадства, бо толькі ў адзінстве сіла».

Традыцыя праходзіць па месцах, звязаных з крыжовым шляхам Хрыста, узнікла ў Ерусаліме ў першыя стагоддзі хрысціянства. З часам інсцэніраваны праход Крыжовага шляху сталі ладзіць у многіх цэрквах і касцёлах.

У Мінску Крыжовае шэсце ладзіцца традыцыйна на Кальварыйскіх могілках напярэдадні апошняй нядзелі Вялікага посту.

Сёлета інсцэніроўка Крыжовага шляху адбудзецца таксама ў Вялікую сераду 20 красавіка на пляцоўцы перад святыняй Найсвяцейшай Тройцы (св. Роха), што на Залатой Горцы. Містэрыя распачнецца а 18-й, пасля чаго адбудзецца святая Імша.

**Сямён Печанка**



IN MEMORIAM

## Бацька малекулярнага мадэлявання



Памёр навуковец Станіслаў Галакціёнаў.

10 красавіка не стала выдатнага беларускага навукоўца Станіслава Галакціёнава. Ён памёр у 74 гады ў Алабаме.

Стась Галакціёнаў займаўся малекулярнай біялогіяй, працаваў з першымі ЭВМ, для якіх рыхтаваў праграмы па біялогіі, звязаныя з вызначэннем структур малекул, а тады гэтая тэма была зусім новай і надзвычай актуальнай. Ён стаў адным з заснавальнікаў той дысцыпліны, якая цяпер называецца малекулярным мадэляваннем. Галакціёнаў пачынаў працу ў Інстытуце біялогіі НАН Беларусі, дзе вакол яго, тады кандыдата навук, спантанна сабралася група маладых навукоўцаў, якія даволі хутка атрымалі прызнанне ў навуковай супольнасці. Жыццё ж тым часам было складанае — заробак малодшага навуковага супрацоўніка складаў трошкі больш, чым заробак прыбіральшчыцы. Пры гэтым атмасфера працы ў групе Галакціёнава заставалася лёгкай і прыемнай. Як кажуць сябры, працаваць з ім нават у такіх няпростых умовах было адно задавальненне.

Ягонае меркаванне было аўтарытэтным нават для масціцых маскоўскіх прафесараў ужо тады, калі Галакціёнаў быў простым кандыдатам навук — нетрывіяльны падыход да навукі забяспечыў яму вядомасць. У 70-х ён абараняе доктарскую і паглыбляецца ў працу. Выходзіць некалькі ягоных кніг.

У 90-х Стась Галакціёнаў па сямейных абставінах з'ехаў у Злучаныя Штаты, дзе працягваў працаваць у Сэнт-Луісе, і ў хуткім часе стаў навуковай славутасцю і ў Амерыцы. Разам з ім працавалі і ягоныя паплечнікі з той самай групы Галакціёнава, якія таксама эмігравалі. Калі амерыканскі прафесар, класік малекулярнай біялогіі Гаральд Шэрага даведаўся пра вынікі навуковых прац Галакціёнава па структуры лінейных пептыдаў, то вельмі перажываў, што праз жалезную заслону не змог даведацца пра іх раней. Прызнанне Галакціёнава стала міжнародным — яго працы па біялогіі перакладаліся на еўрапейскія мовы. Сам вучоны таксама вывучаў мовы, нават перакладаў з японскай. Пры гэтым у яго ніколі не было цягі да кар'еры, якая рэгулярна перашкаджае вучонаму. Ён ведаў сабе кошт, таму засяроджваўся на навуцы, а не на кар'еры. Таксама Галакціёнаў займаўся вывучэннем гісторыі біялогіі ў Беларусі, нават прысвяціў першым беларускім біёлагам адну з кніг.

Актыўную працу Галакціёнаў працягваў да 2001 года, калі ў яго здарыўся інсульт.

Сябры могуць расказваць пра Галакціёнава гадзінамі. Гэта быў вельмі лёгкі чалавек, з шыкоўным пачуццём гумару, а таксама з бясспрэчнай элегантнасцю. Апошняя якасць перадалася яму ад маці, пэўную ролю адыгралі і ягоныя шляхетныя карані. Элегантна ён выглядаў нават з дзікаватай чырвонай валізкай з піўнымі бутэлькамі, калі проста ішоў па вуліцы. Нават цяжкахворым ён не дазваляў хваробе ўзяць над ім верх і імкнуўся жыць паўнавартасным жыццём. У Алабаме ён час ад часу выпускаў друкаваную газетку для кола сяброў, яна называлася «Дахадзяга Weekly і Daily Воплі», дзе з гумарам расказваў пра апошнія падзеі свайго жыцця.

У Мінску на кухні ў яго вісеў «партрэт пеўня», якога Галакціёнаў намаляваў маслам. Сябры кажуць, што певень выглядаў, як жывы.

Крэміраванне славутага навукоўца адбудзецца 20 красавіка. Ягоны прах пахаваюць ля дрэва ў маленькім мемарыяле батанічнага сада горада Мобіля — менавіта такое пахаванне, па меркаванні блізкіх людзей, больш за ўсё пасуе духу Стася Галакціёнава.

**Юрась Ускоў**

# Дагаворны курс валютаў: для ўсіх ці не для ўсіх?

«Дагаворны курс» павінен распаўсюджвацца і на рынак наяўнай валюты.



Каля абменнікаў стаяць безнадзейныя чэргі.

Новы курс даляра, які неўзабаве атрымае Беларусь, ніякім чынам не дапаможа насельніцтву. Купіць валюту па-ранейшаму можна будзе толькі незаконна, а прадаць — альбо нявыгадна, альбо выгадна і незаконна.

Калі заўтра будзе абвешчаны новы «ценявы» курс — няхай ён складзе ўсяго 3800–3900 рублёў, хоць рынак ужо аперыруе большымі лічбамі, — беларусы ўсё адно адчуюць сябе падманутымі. Таму што атрымаць за адарваных ад сэрца $100 усяго 310 тысяч рублёў замест 350 тысяч — як мінімум непрыемна і крыўдна.

Правілы гульні, а значыцца і курс даляра, павінны быць аднолькавымі для ўсіх. «Ільготныя» лекі і газ — гэта добра. Але чаму дзяржава застаецца спонсарам для кагосьці далёкага і нябачнага, пакідаючы ў пройгрышы людзей? Калі Нацбанк пойдзе на «дагаворны курс», то гэтая дамова мусіць закранаць усіх — і імпарцёраў, і бабульку з шматгадзіннай чаргі каля вакзальнага абменніка.

Калі абменнікі будуць прымаць у насельніцтва валюту па курсе, ніжэйшым за ценявы, гэта выкліча масавае пачуццё крыўды.

Людзі падсвядома будуць успрымаць гэта як падман. Тое, што недзе там газ і лекі купляюць па ніжэйшым курсе, — гэта далёка, гэтага не заўважна. А вось тут мне прыходзіцца здаваць даляры па 3100, хоць я ведаю, што на міжбанку іх прадаюць па 4500.

Калі Нацбанк пойдзе на «дагаворны курс», то гэты курс мусіць распаўсюджвацца і на рынак наяўнай валюты.

**Яўген Васількоў**

# Сумленне ёсць?

Піша **Наталка Бабіна**.

Калі слухала і чытала паток абвінавачванняў у адрас незалежных СМІ і нейкай «пятай калоны» — пасобнікаў злачынцаў, — які ліецца з розных афіцыйных вуснаў, успомніўся эпізод з рамана Булгакава «Майстар і Маргарыта». Майстар расказвае пра цкаванне яго ў газетах: «Штосьці на рэдкасць фальшывае і няўпэўненае адчувалася літаральна ў кожным радку гэтых артыкулаў, нягледзячы на іх грозны і ўпэўнены тон. Мне ўсё здавалася — і я не мог ад гэтага пазбавіцца, — што аўтары гэтых артыкулаў кажуць не тое, што яны хочуць сказаць і што іх лютасць выклікаецца менавіта гэтым».

Гэтыя фальш і няўпэўненасць вельмі выразна відаць і ў сённяшніх лютых тварах і інтанацыях.

І чым бы ні апраўдвалі сябе сённяшнія Латунскія, Лаўровічы і Арыманы — важнасцю выканання сацыяльнага заказу, слабай воляй, неабходнасцю дабудаваць катэдж на вуліцы Брыльянтавай, — мне здаецца, гэтае апраўданне не будзе ўспрынятае іх сумленнем. Яно ж у іх ёсць?

Успамінаецца і яшчэ адзін эпізод, з дзяцінства. Я вырасла ў маленькай вёсцы сярод лесу — чыстага, поўнага харараства і гармоніі. Кожны дзень жыцця ў такім лесе — як Божы цуд. Гэтае адчуванне Жыцця як цудоўнага Храма засталося ва мне на ўсё жыццё. Калі да нашай вёскі стала падыходзіць цывілізацыя ў выглядзе дачаў, лес сталі забрудзжваць. Прыбіраць не паспявалі. Бруд распаўзаўся і засцілаў цуд. І вось аднойчы аднавясковец, не вытрываўшы, на з'ездзе з дарогі ў лес усталяваў фанерны плакат: «Совесть есть? Мусор не выбросишь здесь!»

> Калі я слухаю гаваркія галовы па тэлебачанні, мне хочацца спытаць: а вам не страшна за будучыню?

Навукоўцы вызначылі, што колькасць смецця ў прыродзе ўзрастае па парабале, а аднаўленчыя сілы прыроды працуюць па лагарыфмічнай функцыі. Пасля кропкі, дзе парабала ўздымецца над лагарыфмам, — катастрофа, звароту для чалавецтва не будзе. Думаю, дапушчальна экстрапаляваць вынайдзеную заканамернасць і на жыццё грамадства.

Калі я слухаю гаворачыя галовы па тэлебачанні, мне хочацца спытаць у гэтых людзей: а вам не страшна за будучыню, якая робіцца сёння? Думаеце, няма вялікай бяды, калі дзеля свайго маленькага асабістага разліку, сацыяльнага заказу, слабай волі, катэджа на Брыльянтавай вы агучыце сёння словы, якія вам загадалі агучыць? Вам здаецца, што горы прапагандысцкага смецця — пустыя бутэлькі ад пластыкавых думак, бітае шкло ідэалагічных клішэ, друз зруйнаваных жыццяў, патопленыя ў вядры пошласці сляпыя кацяняты кахання — усё роўна будуць перапрацаваныя сіламі дабра і стойкасці? Але раптам менавіта вашыя словы стануць тым даважкам, які ўздыме д'ябальскую парабалу за крытычную кропку?

Усё на свеце ўзаемазвязана. Што калі менавіта сённяшняе хлуслівае слова ці ўбогі страх прывядуць да новай бяды?..

...Увогуле, канечне, смецце агіднае — што ў лесе, што ў грамадстве. Але нічога: надзяваеш працоўныя пальчаткі і прыбіраеш.

# Лябедзька: З токара і электрыка складана зляпіць вобраз грознага ворага


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Мяне ўжо нішто не здзіўляе, — сказаў у інтэрв'ю сайту ucpb.org лідар АГП Анатоль Лябедзька. — Калі заўтра скажуць, што прынята рашэнне ставіць кляймо на лбе ўсіх апазіцыянераў ці што аб'яўлена амністыя ўсім палітвязням, я гэтаму не здзіўлюся. Хоць, вядома ж, на таталізатары я паставіў бы хутчэй на першую, чым на другую навіну.

Краіна ў шоку. А ў такім стане розум спіць, бушуюць адны эмоцыі. Апазіцыя кіўнула ў бок улады, улада паказала пальцам на апазіцыю. Пры гэтым апазіцыя ляжыць пад асфальтавым катком, якім па чарзе кіруюць кіраўнікі сілавых структур, а ўлада і яе прапагандысты невылазна сядзяць у тэле- і радыёэфіры. Як кажуць у Адэсе, адчуйце розніцу.

Такое адчуванне, што магчымыя выканаўцы тэракта расчаравалі ўладу. Са звычайнага токара і электрыка складана зляпіць вобраз грознага ворага або небяспекі, якая стукае ў дзверы сярэднестатыстычнага грамадзяніна Беларусі. І ёсць спакуса ўзмацніць гэты вобраз апазіцыяй як пятай калонай. А заўтра і гэтага камусьці падасца мала. І ў ролі замоўцы цалкам могуць фігураваць нейкія міжнародныя арганізацыі або асобныя краіны. Вось у такой сукупнасці канцэнтрацыя ворага такая, што можна ўздзейнічаць на ўсіх, ад немаўлят да зусім старых.

У існуючай сітуацыі палітычная апазіцыя, прыхільнікі пераменаў павінны супакоіць краіну і людзей пазітыўнай альтэрнатывай пераменаў, адказамі, што трэба рабіць у эканоміцы, як арганізаваць правядзенне сумленных выбараў».

## З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

### Дык што для Лукашэнкі святое — насельніцтва ці валюта?

Цытата: «З засекаў мы больш браць не будзем, золатавалютны рэзерв — гэта святое».

А зусім яшчэ нядаўна казаў, што народ — гэта святое. І таму для людзей (у адрозненне ад юрыдычных асоб) ніякіх праблем з набыццём валюты быць не павінна.

**Fert**

> Чуткі часцей спраўджваюцца, чым ілжывыя заявы чынуш!

### «Недавер да ўлады і дзяржаўных СМІ дасягнуў залімітнага ўзроўню»

Недавер да ўлады і дзяржаўных СМІ дасягнуў залімітнага ўзроўню. А калі няма адкуль чэрпаць праўдзівую інфармацыю, то простым людзям застаецца сілкавацца толькі чуткамі. І сам жа просты народ і стварае паніку і хвалю чутак. Апазіцыя тут ні пры чым.

Звычайныя бабкі ля пад'ездаў — вось яны «злосныя» панікёркі і парушальніцы спакою.

І многія разважлівыя людзі вераць чуткам! А чаму вераць?! Таму што чуткі часцей спраўджваюцца, чым ілжывыя заявы чынуш і ўрада!

Была чутка пра падаражэнне грэчкі — праз пару месяцаў яна і напраўду падаражэла, і вельмі няслаба, чутка пра дэвальвацыю — опа, вось яна, дэвальвацыя. Алей зноў-такі як на дражджах расце ў цане і г.д.

**krem_soda**

### Некалькі кропак над «і»

Улада нясе непасрэдную і жорсткую адказнасць за ўсё, што здараецца ў краіне. Сам Лукашэнка гэта выдатна адчувае, і ягоныя «філіпікі» — гэта класічны прыклад ужывання тактыкі «напад — найлепшая абарона». Дзеля гэтага ён ухіляецца ад прыцягнення да адказнасці кіраўнікоў сілавых структураў, бо хоча падкрэсліць калектыўную адказнасць у форме характэрнай для прымітыўных і асацыяльных супольнасцяў «кругавой парукі». Такім чынам ён спадзяецца забяспечыць лаяльнасць сілавікоў у выпадку непасрэднай пагрозы ягонай манаполіі на ўладу (дарэчы, дарма). І яшчэ. Паводле некаторых назіранняў, улада спрабуе цяпер выкарыстаць некаторыя недзяржаўныя выданні дзеля псіхалагічнага падмацавання сваёй прапаганды. Спадарове журналісты, будзьце пільнымі, не паддавайцеся на правакацыі.

**Чытач**

### Чарга ля абменніка — з 23.00

Мы з жонкай захацелі набыць 200 даляраў. Пайшлі да 9-й раніцы на «Экспабел» (жывём блізка). Аказалася, што людзі стаялі ў чарзе ля абменніка з 23.00 учарашняга дня, і мы ў гэтай чарзе — 84-я. Плюнулі і пайшлі назад.

**Яўген**

Нагадаем, што ў рубрыцы «Меркаванні» публікуюцца артыкулы, якія могуць супадаць, а могуць і не супадаць з меркаваннем Рэдакцыі.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса.

Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Skype: nashaniva**

# Таямніца следства

**Падазраваныя названы, але застаюцца пытанні. Галоўнае з іх: ці магла група тэрарыстаў-аматараў шэсць гадоў заставацца незаўважнай для ўсіх спецслужбаў? І калі так, то чаму?**

Галоўны вынік тыдня пасля тэракта ў мінскім метро — знаходжанне меркаваных злачынцаў. Пра затрыманых ужо праз паўтара сутак пасля трагедыі заявіў намеснік генеральнага пракурора Андрэй Швед.

### «Хто токар, хто электрык»

Выканаўцам тэракта, маркуюць следчыя органы, быў 25-гадовы ўраджэнец Віцебска. Разам з ім быў затрыманы яшчэ адзін хлопец, а таксама дзяўчына.

«Жахліва, але факт: усе гэтыя нягоднікі, хто здзейсніў злачынствы, працавалі ў канкрэтных працоўных калектывах — хто токарам, хто электрыкам», — падзяліўся Аляксандр Лукашэнка. Па ягоных словах, затрыманыя прызналіся ў здзейсненым а пятай гадзіне раніцы. Чаму ў такі ранні час? Бо былі п'яныя да гэтага часу. Гэтыя самыя людзі прызналіся, што датычныя да ранейшых выбухаў — у Віцебску ў 2005 годзе і ў Мінску ў 2008-м.

Як так удалося, што хлопцаў злавілі настолькі хутка? Афіцыйная версія — выканаўца згубіў пільнасць і выразна «засвяціўся» перад відэакамерамі ў метро і каля метро.

Старшыня КДБ Вадзім Зайцаў кажа, што спецслужбы спрацавалі вельмі аператыўна.

Паводле Зайцава, у мінскім метро была ўжытая асаблівая форма выбухоўкі, якая не мае аналагаў. У той жа час, імаверна, выканаўца атрымаў з інтэрнэту веды пра тое, як змайстраваць смяротную прыладу.

### Відэа з метро

У КДБ заяўляюць, што затрыманы хлопец напярэдадні наведваў метро для падрыхтоўкі тэракта.

Невядомыя пераслалі тэлеканалу «Белсат» відэазапіс з метро, дзе добра бачны меркаваны выканаўца. У кадрах чалавек у чорнай куртцы і шапцы нясе цяжкую сумку на «Кастрычніцкую».

На іншым відэа, якое даслалі блогерцы Zmagarka, выразна відаць, як чалавек з сумкай некалькі хвілінаў круціўся ля калоны метро, але потым узяў сумку і накіраваўся ўглыб станцыі. Далей ён не бачны, не бачна, куды дзелася сумка. Наступныя кадры гэтых чалавек круціцца ўжо ў тунэлі, што вядзе з «Кастрычніцкай» на «Купалаўскую». Ад ударнай хвалі выбуху яго прыкрыла сценкай. Мяркуецца, што менавіта адтуль ён мог націснуць на радыёкіраваную прыладу. Пасля падазраваны з'яўляецца ўжо на эскалатары, калі падымаецца з «Купалаўскай» на вуліцу.

Па словах Лукашэнкі, потым ён не паехаў дадому, а накіраваўся да стэлы «Мінск — горад-герой», дзе адбыўся выбух у 2008 годзе. Толькі пасля ён зладзіў дома п'янку.

### «Чалавек не дурны, але безініцыятыўны»

Следства па-ранейшаму адмаўляецца называць імёны затрыманых, бо гэта можа пашкодзіць расследаванню. Генпракуратура і КДБ папярэдзілі журналістаў пра магчымую адказнасць за агалошванне прозвішчаў.

Тым не менш, расійскае інтэрнэт-выданне Life-news назвала імёны імаверных тэрарыстаў. Гэта віцебскія аднакласнікі Д.К., У.К.

«Д.К. і У.К. былі найлепшымі сябрамі ў школе, вучыліся ў адным класе. З іншымі хлопцамі яны амаль не размаўлялі. Д.К. заўсёды быў дзіўным і замкнёным, у школе вучыўся слаба», — расказаў расійскаму выданню аднакласнік затрыманых.

«Цвёрдая пяцёрка ў яго была толькі па хіміі. Вось тут яму роўных не было. Спачатку петарды рабіў, потым стаў майстраваць выбух-пакеты, вельмі магутныя. Ну і У.К. заўсёды дапамагаў яму ва ўсім, быў яго адзіным сябрам».

Хлопцы скончылі ПТВ, пасля чаго ўладкаваліся на Віцебскі завод трактарных запчастак. Д.К. цягам 2009—2010 гадоў служыў у войску. Нядаўна хлопец пераехаў жыць у Мінск.

«Блізкіх сяброў тут не было, і на асабістыя тэмы ён не размаўляў, — кажа адзін з вайсковых начальнікаў затрыманага. — У вольны час глядзеў тэлевізар. Калі я даведаўся, што ён зараз падазраецца ў выбуху, то адразу не мог паверыць. Максімум, што ад яго можна было чакаць, гэта невыкананне даручэнняў. Але каб ён кудысьці ўлез, нешта нарабіў... Ён чалавек не дурны, але безініцыятыўны. Магчыма, трапіў пад нейкі ўплыў. Бо ён быў абсалютна непрыкметны, такі ціхі сераднячок. У ім не было ніякіх лідарскіх якасцяў».

### «Якую лабараторыю там можна развярнуць?»

«Камсамольская праўда» высветліла, што кватэру падазраванага абшуквалі яшчэ пяць гадоў таму, але нічога падазронага не змаглі знайсці».

«Непрыкметны ён! Яго мала і заўважалі. Не піў, не курыў. Ва ўсякім выпадку, заўважаны не быў. Працу рабіў спраўна. Як токар, ён мог рабіць розныя дэталі», — кажуць калегі па працы. Але суседзі гавораць зусім адваротнае, што выпіць хлопец мог і любіў.

Нібыта быў арыштаваны і бацька К., які працаваў гадзіннікавым майстрам. Аднак суседзі не надта вераць у імавернасць такога. Кажуць, што выпіваў. Рукі трэсліся, таму не мог зрабіць вытанчаную работу з выбухоўкай.

Няясная застаецца сітуацыя з сутарэннямі ў Віцебску, дзе нібыта знайшлі падпольную лабараторыю па распрацоўцы выбухоўкі. Пра яе гучала з афіцыйных крыніц. Тым не менш, суседзі затрыманых ставяцца да гэтага скептычна: «Гэта такі падвал, што не дай Бог! Там усё цячэ, сырасць, там такі смурод! Без адгазніка там больш за гадзіну не ўседзець! Там нават лямпачкі няма, і выключальніка няма агульнага. Трэба лямпачку з сабой несці, каб не разбіць там галавы. Якую лабараторыю там можна развярнуць?»

Выказаўся пра затрыманага і сам Аляксандр Лукашэнка. Эмацыйна: «Гэта ўнікальны чалавек ад прыроды, менавіта ў галіне хіміі. Троечнік па ўсіх прадметах, а вось па «хіміі» — выдатна».

### Не здавай адбіткаў

Лукашэнка потым заявіў, што справу можна лічыць раскрытай. Маўляў, пасля ўзяцця адбіткаў пальцаў усё стала ясна. Дзіўна, што хлопец адслужыў у войску, не здаўшы адбіткаў. Вайскоўцы кажуць, што гэта быў абавязак не іхні, а міліцыі.

Няўжо К. магла абмінуць дактыласкапія ў 2006 годзе, калі ў ягонай кватэры быў вобшук, і на заводзе, дзе пальчыкі адкаталі ўсім?

Дзяржаўныя СМІ падаюць затрыманага сацыяпатам. Кажуць, што ён зайздросціў людзям. «Са словаў псіхіятраў, ён з'яўляецца разумным. Свае дзеянні ён тлумачыць задавальненнем, якое яму дастаўляюць чалавечыя пакуты. Псіхіятры параўналі падазраванага з кінавобразам Ганібала Лектара [маньяка з фільма «Маўчанне ягнятаў»]», — напісаў «Інтэрфакс».

Варта зазначыць, што пасля выбухаў 2005 года былі затрыманыя віцебскія браты Мурашкі. Іх паўгода трымалі ў СІЗА, а потым адпусцілі без прабачэнняў. Хоць тады Аляксандр Лукашэнка таксама публічна абвяшчаў, што справа раскрытая і злачынцы прызналі сваю віну.

Цяпер гаворка вядзецца толькі пра выканаўцаў тэракта. Адказаў на пытанні, ці маглі за гэтым стаяць замоўцы і якім чынам віцебскаму пацану ўдавалася шэсць гадоў заставацца незаўважным для агромністага апарату спецслужб, яшчэ няма. Не прагучала з афіцыйных крыніц і тлумачэння матывацыі затрыманага — што ім рухала, чаму ён пайшоў на гэткія ўчынкі. Узрушанае варварскім актам, грамадства чакае адказаў.

**Зміцер Панкавец**

# «К. сам заводзіў гаворку пра выбухі ў Віцебску і Мінску»

Іван Шыла служыў у адной вайсковай часці з затрыманым па падазрэнні ў тэракце Д.К. Шыла праходзіў службу ў 2009 годзе ў пасёлку Межыца (Лепельскі раён).

«З К. мы былі аднаго прызыву. Служылі ў адным дывізіёне. Не самы старанны салдат быў. Зрэшты, як амаль усе. Тым не менш, меў пагоны старшага сяржанта. За час службы ў войску нармальна кантактавалі. У мяне, як «палітычнага», шмат хто рознага пытаўся.

Запомнілася, што сам К. колькі разоў заводзіў гаворку пра выбухі ў Віцебску і Мінску на Дзень Рэспублікі. Пытаўся, а хто б гэта мог быць, ці зловяць вінаватых, навошта яны гэта рабілі?

Калі б мне сказалі пра нейкага іншага саслужбоўца, што ён датычны да тэракта, то не паверыў бы, а тут нешта ёсць», — мяркуе Іван Шыла.

Шыла і К. служылі пасля таго, як здарыўся выбух у Мінску на канцэрце на Дзень Рэспублікі. Раней ад следчых стала вядома, што падазраваны нейкім чынам пазбег абавязковай дактыласкапіі ў часе прызыву ў армію.

«Дзіўны хлопец, але ў чым ягонае дзівацтва, нават не магу дакладна вызначыць. Тым не менш, звонку падаваўся абсалютна нармальным хлопцам.

Хіба што хіміяй цікавіўся. Мог вось запраста сказаць, што з таго і таго можна зрабіць нейкую рэч, а з іншых кампанентаў нешта другое. Тут я зусім не кажу пра выбухоўку. Напрыклад, мог сказаць, як абсэнт зрабіць.

Падазрэнні, што затрыманым можа быць К., сталі з'яўляцца ў Шылы пасля публікацый у прэсе. Іншы саслужбовец напісаў, што яго выклікалі на допыт у КДБ, паказвалі здымкі. Тады ўжо сумневаў амаль не засталося», — кажа Іван Шыла.

**Запісаў ЗП**

# Вконтакте: М.М.



У сацыяльнай сетцы «Вконтакте» падазраваны Д.К. зарэгістраваны пад імем М.М. [не раскрываем] Чаму так? Бо нібыта натхніўся адным з герояў серыяла пра міліцыю.

На фотаздымку «Вконтакте» К. есць сушы, побач куфаль піва. Ды і ўвогуле, на абсалютнай большасці здымкаў ён з півам ці дзяўчатамі. А часта гэтыя два пункты супадаюць. Яшчэ ён змясціў карцінку, дзе рука выкідае ў сметніцу значкі хрысціянства, мусульманства, юдаізму. Подпіс да яго гучыць: «Не засмечвай свой розум».

Пра сябе ён напісаў наступнае: «Люблю спаць, шмат спаць. Глядзець целек, фільмы магу глядзець суткамі. Люблю дождж, асабліва маланку. Люблю глядзець на зорнае неба, агонь. Хачу бухнуць на даху, сустракаючы світанак. Люблю піць піва з кальмарамі, ці сушанай рыбкай. Не люблю дзяўчат з кароткай стрыжкай і ў шырокіх штанах. Хачу скокнуць з парашутам. Люблю шакалад і цукеркі з какосам».

**ЗП**

# Харанека: Таямніца следства

**Славуты гіравік Вячаслаў Харанека ў момант выбуху быў якраз на пляцоўцы перад тунэлем, што вядзе на «Купалаўскую». Тамсама, дзе мог стаяць меркаваны выканаўца тэракта.**

Харанека чакаў у тым месцы свайго сябра. «Памятаю, як глянуў на гадзіннік, было недзе 17.50. Сябар спазняўся. Гэта, магчыма, яго выратавала, бо выбух заспеў яго ў лічаных метрах ад эскалатара», — расказаў «НН» сп.Вячаслаў. Пачуўшы гучны хлапок, ён інстынктыўна прысеў. «Гэта мяне ўратавала, мяне толькі чыркнула па ўскоснай асколкам. Можа, дапамагло і тое, што на галаве была бейсболка».

Вячаслаў Харанека не памятае таго ці тых, хто быў з ім на той пляцоўцы ў часе здарэння. Тым не менш, спартсмен не адкідаў магчымасці, што ў выпадку, калі пабачыць фота- ці відэаматэрыялы, то магчыма нешта прыгадае з таго, чаму не надаў у той момант увагі.

Праз тыдзень мы зноў звязаліся з гіравікам. «Так, бачыў відэа. Але, ведаеце, са мной, як сведкам, ужо папрацавалі. Забаранілі даваць нейкія інтэрв'ю. Таямніца следства. Калі пройдзе суд, то я з радасцю адкажу на ўсе пытанні», — гаворыць Харанека.

**СП, ЗП**

# З «Кастрычніцкай» і «Плошчы Якуба Коласа» прынялі лаўкі

**Улады перастрахоўваюцца пасля тэракта.**

Пра непатрэбнасць лавачак у метро 16 красавіка заявіў Аляксандр Лукашэнка. «Хіба метро для таго, каб прыйсці і адпачыць? Цягнікі там ходзяць літаральна праз некалькі хвілінаў, дзве–тры ў гадзіны пік. Ну навошта? Заўжды праглядаецца натоўп. Няма лавачкі — стаіць сумка, пакет, імгненна звернуць увагу», — сказаў ён.

У той жа час ва ўсім свеце, нават у тых краінах, дзе тэрарыстычная пагроза існуе ўвесь час, лаўкі ў метро маюцца. Ці ж у лаўцы была прычына трагедыі?

**Сяргей Гезгала**

# «Больш я на дзяржаву працаваць не буду!»

Юрый Чыж: як становяцца мільянерамі.

У спісе беларускіх мільянераў, які з’явіўся ў краіне ў пачатку стагоддзя, Юрый Чыж займаў агульнае восьмае месца. Ягоную маёмасць ацэньвалі ўсяго ў $46 мільёнаў — нішто ў параўнанні з расійскімі алігархамі. Але сярод бізнэсоўцаў Чыж быў трэцім. Вышэй былі толькі «збройнік» Уладзімір Пефціеў і давераная асоба Івана Ціцянкова Віктар Лагвінец, які ўрэшце збег у Маскву.

Прайшло дзесяць гадоў. Імперыя Чыжа ўпэўнена разраслася ва ўсіх накірунках, а яго імя ў новых бізнэс-рэйтынгах апынулася яшчэ бліжэй да вяршыні, на другім месцы пад сонцам беларускай эканомікі. Але выходзіць пад сафіты тэлекамер алігарх не спяшаецца. Чыж не любіць шуму.

## «Бедны» сваяк

Уся інфармацыя пра Юрыя Чыжа ў беларускай медыяпрасторы фактычна зводзіцца да некалькіх гутарак з карэспандэнтамі «Прэсбола», дзе ён паказвае сябе богам і гаспадаром футбольнага мінскага «Дынама», а таксама адзінкавага настальгічнага інтэрв’ю сямігадовай даўніны. У ім мільянер расказваў, якім таленавітым вучнем быў у школе, прызнаваўся, што «здымае кватэру», бо «яшчэ не пабудаваў дом», і скардзіўся на недахоп свабодных грошай. Уменне не прыцягваць да сябе лішнюю ўвагу — тое, што адрознівае беларускіх алігархаў ад расійскіх і ўкраінскіх калегаў.

## Пладавітая вёска

Будучы мільянер нарадзіўся ў маленькай вёсцы Сабалі пад Бярозай (Брэсцкая вобласць) у 1963 годзе. Юра быў у бацькоў малодшым дзіцем, прычым у сям’і нарадзілася ажно шэсць хлапчукоў! Так шмат дзяцей нараджалася і ў суседніх дварах.

«У нашых Сабалях утварылася вельмі моцная баптысцкая супольнасць, — тлумачаць аднавяскоўцы Чыжа. А паколькі ў баптыстаў не вітаюцца аборты, то дзеці і нараджаліся адно за адным». Цікава, што бацька алігарха, Аляксандр Чыж, быў праваслаўным, а маці стала баптысткаю. А вось самога Юру ў малітоўным доме ніколі не бачылі.

## Сямейны бізнэс

Бацькі Чыжа былі простымі людзьмі, і род быў сялянскі ад веку. Па словах суседзяў — сям’і Жалудкоў, з іх сынам Юра сябруе дагэтуль, — бацька падчас вайны трапіў у палон да немцаў. Быў у канцлагеры, але выжыў і вярнуўся дадому.

«Валодзя, Жэня, Віця, Саша, Толік... Ну і Юра, канечне!» — вяскоўцы з цяжкасцю ўзнаўляюць спіс братоў Чыжоў па старшынстве. Старэйшага з іх ужо няма ў жывых. Раней Валодзя працаваў старшынёй мясцовага калгаса, а пасля лёс закінуў яго ў прымежную Маларыту, дзе ён працаваў дырэктарам гароднінасушыльнай фабрыкі.

Сямейная справа на Юравы грошы — бярозаўскае прадпрыемства «Варыянт», якое робіць вокны і дзверы. Пераважна з дрэва, але ёсць і алюмініевыя вырабы. Саша з Толікам дагэтуль кіруюць «Варыянтам». Гараджане іх паважаюць, але не вельмі любяць — кажуць, што браты ганарлівыя.

Раней разам з імі працаваў яшчэ брат, Жэнік, але цяпер ён выйшаў на пенсію і вярнуўся ў родную вёску, трымаць бацькоўскую хату. Жоўты дом на краі вёскі нядаўна адноўлены і добра глядзіцца на фоне суседніх шэрых панурых хат. Прасторны двор з не самай новай машынай, нядаўна пафарбаваная альтанка і склад шыферу на двары — вось няхітрая панарама чыжоўскай хаты.

Маці братоў там больш не жыве. Калі ў старой з’явіліся сур’ёзныя праблемы са здароўем, адзін з братоў забраў яе да сябе ў суседні Белаазёрск.


PHOTO.BYMEDIA.NET

**Юрый Чыж**

Нар. у 1963 у вёсцы Сабалі Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Вучыўся ў Беларускім політэхнічным інстытуце (цяпер БНТУ). У 1985—1992 працаваў на МТЗ. У 1992 заснаваў кампанію «Трайпл».

Цяпер кіраўнік групы кампаній, якія займаюцца нафтаперапрацоўкай, дрэваапрацоўкай, вытворчасцю безалкагольных напояў, будаўніцтвам. Валодае футбольным клубам «Дынама» (Мінск) і шэрагам рэстаранаў. Адзін з найбагацейшых людзей Беларусі.

## Шалапаісты хімік

Бліжэйшая ад Сабалёў школа знаходзілася за пару кіламетраў, у суседніх Равяцічах. Туды і хадзілі ўсе браты. «Сабалянцаў было так шмат, што з іх стварылі цэлы клас», — узгадвае тагачасны дырэктар школы Іосіф Дубскі. Калі Юра атрымліваў сярэднюю адукацыю, алімпійская траса Масква—Брэст (цяперашняя галоўная дарога краіны) прайшла якраз паміж вёскамі, пакінуўшы іх паабапал дарогі.

Як вучыўся малодшы Чыж — загадка для будучых біёграфаў алігарха. «Вучыўся добра. Сярэдні бал быў 4,47. Было б 4,5, здаваў бы пры паступленні ў Політэхнічны інстытут два экзамены, а так прыйшлося здаць чатыры. Мне ўсё лёгка давалася, але я быў самым недысцыплінаваным у класе», —так расказваў Юрый Чыж у інтэрв’ю «Прэсболу».

Мясцовыя жыхары ўзгадваюць інакш. А моцныя бакі Юры ў цяперашніх беларускіх рэаліях выглядаюць нават небяспечнымі... «У яго былі найлепшыя адзнакі па хіміі. Ну і па фізкультуры, вядома ж», — кажа школьны настаўнік. Узгадвае і цікавы эпізод. На адзін і той жа дзень Юру запрасілі ўдзельнічаць у алімпіядзе па хіміі і ў нейкай спартакіядзе ці то па барацьбе, ці то па лыжных гонках. Чыж абраў спорт, чым вельмі расчараваў школьную настаўніцу хіміі. Але ў тым, што ў юнацтве Юра быў шалапаем, не сумняваецца ніхто, нават ён сам. «Быў лайдакаватым, але ду-ужа спрытным!» — падсумоўвае дзед Валодзя з роднай вёскі.


Бацькоўская хата Чыжоў.
ЯЎГЕН ВАСІЛЬКОЎ

## Паказальная разруха...

Сабалі засталіся ў цяні больш паспяховых Равяцічаў. Вёска вымірае. Агулам тут жыве семдзесят чалавек, але мясцовасць выглядае пустыннай. Лукашэнка сюды ніколі не заязджаў. «Яго сюды не павязуць. Мы бесперс-пек-тыў-ныя, — з цяжкасцю вымаўляе адзін з дзядоў. — І ферма ў нас загнівае — яму такое не паказваюць».

Увесь гонар за славутага земляка дастаўся менавіта Равяцічам. Сюды возяць і дарагіх гасцей са сталіцы, і замежныя дэлегацыі. І школу, і футбольнае поле можна заўважыць з трасы. Чыстае поле — і раптам такі акультураны аазіс. Але хоць вёска сімвалічна стаіць ля самай трасы, назваць яе пацёмкінскай не павернецца язык.

## ... і паказальнае шыкаванне

Сваю школу Чыж падтрымліваў ад самага пачатку, як толькі выйшаў закон аб спонсарскай дапамозе. Самая першая дапамога — набыў камп’ютары. А дзецям на Новы год заўсёды арганізоўваў салодкія падарункі ад Дзеда Мароза.

Сёння школа — адна з найлепшых у вобласці па тэхнічным забеспячэнні. Хіба што прайграе радзіме Пятра Пракаповіча, Тамашоўцы, але ў Нацбанка грошай, відаць, паболей... У Равяцічах і штучнае пакрыццё на футбольным полі, і мультымедыйныя ўстаноўкі ў класах — дзе праектары, дзе мультымедыйныя дошкі. Сцены не проста фарбавалі, а запрашалі найлепшых мастакоў вобласці. «Ад старой школы ў нас застаўся вісець толькі электронны гадзіннік над уваходам!» — прыводзіць паказальны прыклад былы дырэктар школы. Давялося нават зрабіць перапланіроўку будынка, пакінуўшы толькі падмурак.

Мала хто са старых настаўнікаў паспяхова ўпісаўся ў час новых тэхналогій. Замянілі і дырэктара. Новага кіраўніка знайшоў сам Юра. Гэта былы гарадскі фізрук, які пераехаў у вёску разам з сям’ёй. Яму ўсяго трыццаць гадоў, і з тэхнікай ён на «ты».

## Новае пакаленне не выбрала «Трайпл»

У рэканструкцыю школы ўклалі велізарныя грошы — 400 мільёнаў рублёў бюджэтных грошай і яшчэ 3,5 мільярда рублёў ад Чыжа. Па тагачасным курсе ўклад мільянера склаў больш за $1,5 мільёна. Чыж асабіста кантраляваў працэс. «Аднойчы прыехаў, убачыў, што рабочыя паклалі не зусім роўную сцяну. Дык загадаў разагнаць усю брыгаду, а новым будаўнікам давялося разабраць сцяну і толькі пасля класці новую», — легенды пра строгасць, але справядлівасць Чыжа перадаюцца з вуснаў у вусны.

Кажуць, што аднойчы на сустрэчы выпускнікоў нехта з школьных прыяцеляў падышоў да алігарха і папрасіў замовіць слова ў Мінску, нават не для сябе, а для сына ці ўнука. Чыж раз’ярыўся: «Я нават па радстве нікога не бяру на працу!»

Але не ўсе ў раёне бясспрэчна слухаюцца мільянера. Чыж падарыў школе міні-бар. Ходзіць легенда, што там меркавалі прадаваць (ці нават разліваць бясплатна) газваду ад «Трайпла». Але санстанцыя ўпёрлася: ніякай газіроўкі ў школе! «Вось і стаіць цяпер бар як помнік», — жартуюць настаўнікі.

## Біццё аб сцены МТЗ

Атрымліваць адукацыю Юрый Чыж адправіўся ў Мінск. У 1980 годзе ён паступіў у Політэхнічны інстытут на электратэхнічны факультэт.

«Скончыў інстытут — узнікла праблема працаўладкавання. З Мінска з’язджаць, вядома ж, не хацелася, — расказваў сам Юрый Чыж. — А ў нас найбліжэйшае размеркаванне — Смаленская АЭС. Добра, што дэканам быў мой зямляк. Звычайны мужык, мы з ім вырашылі пытанне, і адправіўся я выкарыстоўваць атрыманыя веды на МТЗ».

Кар’ерны рост даў Чыжа за сем гадоў да ўзроўню кіраўніка энергаслужбы корпуса. Але прадпрымальніцкая жылка хацела большага. Будучы мільянер прапанаваў тагачаснаму кіраўніку завода Івану Куляшову стварыць на прадпрыемстве кааператыў. Але высветлілася, што начальнік савецкай закалкі шарахаўся ад такіх энтузіястаў. Некалькі гадоў спрабаў праявіць ініцыятыву, і ў 1992 годзе Юрый Чыж звальняецца з МТЗ. У Сабалях усе ў адзін голас паўтаралі нам фразу, якая нібыта належыць Чыжу і якая прагучала менавіта тады: «Больш я на дзяржаву працаваць не буду!»

У тым жа годзе Юрый Чыж заснаваў сваю першую кампанію — «Трайпл»...

**Яўген Васількоў, Адар’я Гуштын, Мінск—Сабалі—Равяцічы—Мінск**

**Працяг у наступным нумары «Нашай Нівы».**

# Курэйчык пераехаў з вёскі ў Мінск

Справа не ў чорным спісе. На пераездзе настаяла жонка.

Цяпер самы запатрабаваны сцэнарыст былога СССР жыве на Аўтазаводзе.

Пра драматурга Андрэя Курэйчыка больш не пішуць лукашэнкаўскія СМІ, але спектаклі паводле ягоных п'есаў ідуць у мінскіх тэатрах. Андрэй распавёў у інтэрв'ю «НН» пра сям'ю, грошы і добрых і злых чыноўнікаў.



Фільмы Курэйчыка разам сабралі 71 мільён даляраў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«НН»: Вы трапілі ў «чорны» спіс дзеячаў культуры, які нібыта існуе. Як можаце патлумачыць сваю прысутнасць у ім?**

**АК:** Адразу ж пасля выбараў, раніцай 20 снежня, на сайце naviny.by выйшаў мой артыкул «Лісты да мінскага сябра». У ім я іранізую над сітуацыяй, калі выбары афіцыйна не скончыліся, а ўжо большасць кандыдатаў сядзяць у турме. Гэта сапраўды не мае аналагаў у сусветнай гісторыі. Мы яшчэ не ведаем імя прэзідэнта, нібыта ідзе падлік галасоў, а большасць кандыдатаў ужо арыштавалі. Хаця, напэўна, не толькі артыкул паўплываў. Мне нават міністр культуры казаў, каб я быў асцярожны ў выказваннях. Бо «наверсе» гэта кагосьці раздражняе.

**«НН»: Музыкам са спіса адмяняюць канцэрты. А спектаклі па Вашых п'есах не здымаюць з рэпертуару?**

**АК:** Спектаклі ідуць. І іх складана забараніць, бо гэта частка рэпертуараў дзяржаўных тэатраў. У іх іграюць сур'ёзныя акцёры, напрыклад, народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі. Было б скандалам пазбавіць іх працы. Але на маю асноўную працу — кінавытворчасць — гэта ніяк не паўплывала. Я не залежу ад беларускага ўрада. Гэтай вясной нават больш прапаноў стала. Не будзе хіба некалькіх інтэрв'ю дзяржаўнай прэсе. Гэта я перажыву...

## Скарына — як Цукерберг

**«НН»: Вы першым выступілі з асуджэннем гэтага спіса, але ў той жа час міністр культуры нядаўна заявіў, што Ваш сцэнар фільма «Францыск Скарына» прэтэндуе на статус нацыянальнага праекта.**

**АК:** Адна рука дзяржавы забараняе, а другая робіць усё наадварот.

Для мяне дзіўна, што Павел Латушка ўсё яшчэ міністр культуры. Будзе запушчаны «Францыск Скарына» — значыцца, ён здолеў растлумачыць ідэолагам, што нельга ў мастацтве дзяліць людзей па іншых крытэрах, акрамя як талент.

**«НН»: Што гэта за фільм «Францыск Скарына»?**

**АК:** Калі ўсё пойдзе добра, то гэта будзе фільм-даследаванне на тэму «Ці з'яўляецца Беларусь еўрапейскай краінай». Гэта драма чалавека, які прынёс сюды еўрапейскія «тэхналогіі» і каштоўнасці, але быў вымушаны эміграваць. Я паспрабаваў зрабіць Скарыну, скажам, Маркам Цукербергам таго часу.

**«НН»: А мова фільма якой павінна быць?**

**АК:** Беларускай. Я сам пішу і думаю па-расейску, але гэта я. А мова фільма павінна быць беларускай.

**«НН»: Месяц таму ў пракат выйшла стужка «Любовь-морковь — 3», да якой ужо не Вы пісалі сцэнар. Фільм бачылі?**

**АК:** Не, не бачыў. Я працаваў над фільмам «Службовы раман. Наш час». Я наеўся «Любові-моркові» ў пэўны перыяд і сышоў працаваць на канкурэнтаў. Я не бачыў трэцюю частку, але ведаю, што стужка сабрала менш грошай, чым першыя дзве. Але гэта не столькі правал сцэнара альбо падбору акцёраў, колькі стомленасць гледача ад франшызы.

**«НН»: «Службовы раман» зарабіў больш?**

**АК:** Так. Ён ужо сабраў у пракаце 13 млн даляраў. Гэта ў паўтара разу больш, чым «Любовь-морковь — 3». Паспяховы камерцыйны праект. Хаця ён мне даўся нялёгка — у мяне быў канфлікт з прадзюсарамі.

**«НН»: Цяпер над чым працуеце?**

**АК:** У мяне ідуць здымкі двух кінапраектаў у Расіі. У маі на тэлеканале «Расія» будзе прэм'ера фільма «Тры Жызелі». Фільм зняты ў Францыі і Расіі паводле маёй п'есе, спектакль па якой ідзе ў мінскім Новым драматычным тэатры ў пастаноўцы Аляксандра Гарцуева.

**«НН»: За беларускім кіно сочыце?**

**АК:** Так. Але ў пракаце яго амаль няма.

**НН: Адну з апошніх карцін «Масакру» прадставілі як новае беларускае кіно. Наколькі яно новае?**

**АК:** Для «Беларусьфільма» гэта новае кіно. Але нават пры запуску ў вытворчасць было зразумела, што фільм немагчыма прадаць. І вечная памылка, што «Беларусьфільм» робіць кіно для сябе ці міністэрства, а глядач — на другім плане. Так аказалася і тут: сустрэліся, паглядзелі, адзначылі фуршэтам. Максімум — фестываль у Анапе. Вось і ўсё.

**«НН»: «Францыска Скарыну» Вы бачыце іншым?**

**АК:** Безумоўна. Я надта хачу, каб людзям было неверагодна цікава яго глядзець. Гэта меладрама, там шмат кахання і гумару. Як мне здаецца, гэта павінна быць больш «глядацкае» актуальнае кіно. Не горшае, чым оскараўскія «Кароль размаўляе» ці «Сацыяльная сетка».

**«НН»: Беларускае кіно, па Вашых словах, слабае. А кінафестываль «Лістапад» у такім выпадку варта праводзіць?**

**АК:** Фестываль — гэта добра. У Мінску іх павінна быць шмат. Але такі танны пафас фестывалю выклікае адчуванне, калі бедныя людзі спрабуюць шыкаваць на апошнія грошы. Я не магу зразумець, навошта была патрэбная Арнэла Муці на «Лістападзе-2010». Іншая справа, калі б яна з'яўлялася членам журы: глядзела фільмы, праводзіла майстар-класы, прэс-канферэнцыі ладзіла. Гэта праца. А за 40 тысяч еўра выйсці на адкрыцці і сказаць нейкую лухту і з'ехаць, па-мойму, гэта і ёсць пусты шык.

## Аўтазавод — гэта як Берлін

**«НН»: Вы не так даўно пераехалі з вёскі Турэц у Мінск. Чым абумоўлена гэта?**

**АК:** У Турцы прадалі дом. Гэта я зрабіў дзеля жонкі. У мяне падрастае сын, якому тры з паловай гады, а ў чэрвені мы чакаем нараджэння дзяўчынкі. Я пастаянна ў ад'ездах, і жонцы Вользе цяжка адной там. Вырашылі, што я яе перавязу ў мінскую кватэру, але набуду яшчэ і лецішча.

**«НН»: Але ў вёсцы Вам лепш працавалася?**

**АК:** У мінскай кватэры горш пішу. І жонцы кажу: шмат хто з пісьменнікаў жыў па-за горадам. Маўляў, нічога страшнага. Я вырас у мястэчку, у Смілавічах. А мая жонка — гарадскі чалавек. Ёй сумна, вясковы народ яе пужае, яна не разумее «алкагольную рамантыку» мясцовага насельніцтва. І каб сям'я не развалілася праз быт, мы вырашылі, што ў горадзе будзе кватэра, а яшчэ набудзем хай і невялікае, але лецішча, дзе я буду пісаць.

**«НН»: У Вас элітная кватэра?**

**АК:** Не, нават раён не элітны. Я жыву на Аўтазаводзе. Люблю архітэктуру гэтага раёна. Лічу, што гэта адзіны еўрапейскі раён у Мінску — такі Берлін. І мяне бянтэжыць, што там збіраюцца будаваць пачварныя шматпавярховікі.

**«НН»: Суседзі пазнаюць?**

**АК:** Адзін ведае, хто я і чым займаюся. Ён архітэктар, які праектуе тэатральныя залы. Дворнікі мяне адразу пазналі. Не ведаю, чаму менавіта яны. Вітаюцца пастаянна. Дапамагалі машыну адкопваць з-пад снегу.

## Я быў бы мільянерам

**«НН»: Пасля выхаду першай часткі «Любовь-морковь», якая прынесла вядомасць, прайшло чатыры гады. Заробкі выраслі за гэты час?**

**АК:** Зарабляю цяпер так, як зарабляюць мае калегі з першай дзясяткі расійскіх сцэнарыстаў. Сукупны збор фільмаў па маіх сцэнарыях — 71 млн даляраў. Гэта рэкорд сярод сцэнарыстаў на тэрыторыі СНД. Хаця, калі б я працаваў у Амерыцы і атрымліваў працэнты ад збораў, стаў бы ўжо мільянерам. Але тут гэта немагчыма.

**«НН»: Зарабляеце дастаткова, каб пераехаць у Маскву ці любы заходнееўрапейскі горад. Што трымае ў Мінску?**

**АК:** Можна сказаць пафасна пра любоў да гэтага горада. Кіно — гэта добра, але для мяне гэта не галоўнае. Мне куды важней зрабіць унёсак у беларускую літаратуру і мастацтва. Гэта не прыносіць ніякіх грошай і амаль ніякай вядомасці. Літаратура ў Беларусі — гэта маргінальны занятак. Але я разумею, што без літаратуры нацыі няма. Мае п'есы ўжо вывучаюцца ў школе і ва ўніверсітэтах. Але пакуль гэта не заўважна, бо «Любовь-морковь» усё перабівае.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

# Не здаў адбіткаў пальцаў — плаці штраф

Суд Савецкага раёна Гомеля аштрафаваў чалавека на 875 тысяч.

Васіль Палякоў адмовіўся здаць у райаддзеле міліцыі адбіткі пальцаў, і на яго быў складзены адміністрацыйны пратакол за непадпарадкаванне законнаму распараджэнню альбо патрабаванню службовай асобы.

Сам Палякоў патлумачыў у судзе, што здача адбіткаў пальцаў прыніжае ягоную чалавечую годнасць, а фарба, якой карыстаюцца ў міліцыі дзеля правядзення дактыласкапіі, можа пашкодзіць здароўю. Між тым, праваабаронца Леанід Судаленка звяртаў увагу, што закон не прадугледжвае адказнасці за адмову здаць адбіткі пальцаў. Аднак суддзя Галіна Сыцько стварыла судовы прэцэдэнт, пакараўшы за гэта штрафам на 25 базавых велічыняў.

Васіль Палякоў — вядомы актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі, за свае правы рашыў пазмагацца і таму збіраецца аспрэчыць прысуд у абласным судзе, а калі спатрэбіцца, то і ў Вярхоўным судзе, і ў Камітэце ААН па правах чалавека.

**СГ**

# Газетная папера: цэны выраслі да 70%

Раней «Наша Ніва» закупляла газетную паперу вырабу Сыктыўкарскага завода па цане 2 050 000 беларускіх рублёў за тону без уліку ПДВ (20%). Цяпер аптавікі прапанавалі нам яе па цане 3 500 000 рублёў за тону.

Падаражэнне склала 70% пры афіцыйнай лічбе інфляцыі ў Беларусі 6% у першым квартале.

У Беларусі прадаецца таксама папера вырабу Шклоўскага завода. Друкары лічаць, што яна горшай якасці, таму раней «НН» яе не выкарыстоўвала. На гэты раз газеце ўдалося закупіць 6 т гэтай паперы па цане 2 300 000 рублёў за тону без уліку ПДВ, прычым гэта былі апошнія складскія запасы ў пастаўшчыка. Наступная партыя шклоўскай паперы будзе па яшчэ вышэйшай цане, папярэдзіў ён.

У месяц «Наша Ніва» выдаткоўвае каля 1,4 тоны паперы.

Адначасова Дом друку паведаміў, што паднімае расцэнкі за свае паслугі на 15-20%.

**Сяргей Гезгала**

# Беларускі тыдзень моды — тэндэнцыі сезона

Галоўная фэшн-падзея краіны адбываецца ў нашай краіне другі раз.

Беларускі тыдзень моды прайшоў у сталіцы з 12 па 17 красавіка. Нягледзячы на сумныя падзеі ў Мінску і агулам несвяточны настрой, Тыдзень моды адбыўся. Удзельнікі стараліся засяродзіцца на тэндэнцыях высокай моды наступнага сезона восень—зіма 2011—2012.

Галоўная фэшн-падзея краіны адбылася ў Беларусі другі раз. Сёлета на подыуме паказалі сябе і сваё бачанне наступнага моднага сезона дызайнеры з Беларусі, Расіі, Украіны.

Дызайнеры прадставілі розныя вобразы жанчын. На кожным паказе свае тэндэнцыі і прапановы. Даўгія цёплыя пальчаткі да локця. Строгія прыталеныя паліто з яркімі выбітнымі аксесуарамі. Сур'ёзныя, але сексуальныя спадніцы, якія ледзь-ледзь адкрываюць калені. Прынты, нанесеныя не толькі на сукенкі і паліто, але і на калготкі. А таксама бялізна ад паўпразрыстай карункавай да цёплай футравай. Такія тэндэнцыі прапануюць мадэльеры на наступны сезон.

**НШ, фота Юліі Дарашкевіч**



Брэнд MONA (Сербія).



Брэнд MONA (Сербія).





Брэнд Davidova.



Dasha Gauzer (Расія).







У межах Тыдня беларускай моды прайшоў і паказ бялізны брэнда Bravo.




Паказ адной з калекцый праспансараваў завод трактарных дэталяў. Што адлюстравалася на запрашальніках.

# Абсяг Вялікае Літвы

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

Цяперашнім часам кнігі са стольнае Вільні ў стольны Мінск ідуць доўга. Вось і два тамы «Вялікае Літвы» (2009) трапілі ў Нацыянальную бібліятэку зусім нядаўна.

Кнігі вялікія і фарматам, і колькасцю старонак. Каб ніхто не сумняваўся, што гаворка ідзе менавіта пра Вялікую (Большую) Літву, пад літоўскім загалоўкам кожнага тома («Didžioji Lietuva») змешчаны ангельскі («Greater Lithuania»), які з англійскай перакладаецца як «Большая».

Прадмова да выдання таксама напісаная на гэтых дзвюх мовах. А варта было б напісаць яе і па-беларуску. Хоць бы таму, што кнігі зацікавяць беларускіх гісторыкаў — гісторыкаў архітэктуры і горадабудаўніцтва ў першы чарод. Справа ў тым, што ў абедзвюх гэтых кнігах змешчаныя фота помнікаў архітэктуры нашае краіны: у першай кнізе — Гродзенскае і Віцебскае абласцей, у другой — Брэсцкай, Гомельскай, Мінскай і Магілёўскай. На вокладцы першае кнігі — Мірскі замак, другое — палац Сапегаў у Ружанах.

### Што такое Вялікая Літва

Тэрмін «Вялікая (Большая) Літва» не выклікае пярэчанняў нават у некаторых беларускіх нацыяналістаў, асабліва ў гэтак званых літвінаў, якія ўздыхаюць па Літве часоў Міхала Казіміра Агінскага і Адама Міцкевіча. Нагадаю, што нацыяналіст Ян Станкевіч склаў вялікалітоўска-расійскі слоўнік і што вялікалітоўская мова ў яго разуменні — гэта беларуская. Але ўпэўнены, што нават у нашых «інтэрнацыяналістаў» выклікае абурэнне славутая мапа Літвы 1920 г. з Сувалкамі, беластоцкаю Дуброваю, Гроднам, Валожынам, Паставамі і Браславам у складзе выпешчанай у марах літоўскіх нацыяналістаў літоўскай жа дзяржавы. Ці магла аўтарка кніг Бірута Валёніце абысціся без гэтае мапы?

Ёсць у першай кнізе і мапа Літвы 1990 г. На ёй наша краіна названа Гудзіяй. І гэта добра. Я і сам у гутарках з літоўцамі называю сябе не балтарусам, а гудам. І пан Адам Мальдзіс з-пад Ґудагая падпісваецца пад некаторымі сваімі тэкстамі як Гудас. Гудас, Гудзія — імёны гістарычныя, адметныя. Добра, што беларускія назовы на мапе 1990-га даюцца лацінкаю, але, на жаль, не заўсёды пісьменна. Гэта датычыць Лідскае раўніны, Ашмянскага ўзвышша і Маладзечна.

### Праблемы перакладу

У кожным раздзеле ў алфавітным парадку даюцца звесткі пра больш-менш адметныя помнікі архітэктуры. Так, першы раздзел першае кнігі, прысвечаны Гродзенскай вобласці, пачынаецца з Адэльска, з касцёла ў роднай вёсцы мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.

Назовы населеных пунктаў даюцца па-літоўску і па-беларуску (кірыліцай). Тут жа і ангельская транскрыпцыя беларускіх назоваў, але (зноў, на жаль) непісьменная, бо гэта не беларуская лацінка, а той яе варыянт, які слушна было б назваць каланіяльным. Тлумачу: людзі ідуць не ад беларускага напісання і гучання слова, а падладжваюцца пад вымогі польскае, расійскае і англійскае моваў, і, напрыклад, нашае h у іх спрэс замяняецца літараю g. Мала таго што не пішуць як належала б, Hrodna, дык, выдыгаючыся перад заходнімі і ўсходнімі «вялікімі» суседзямі, пішуць Grodno, Mogilev і да таго падобнае. У кнігах, пра якія тут гаворка, дадаецца яшчэ літоўская інтэрпрэтацыя нашае мовы. Вядома, што ў літоўскай мове няма гука [х] (яго замяняе гук [к]). Таму Вялікія Жухавічы ў гэтым выданні даюцца кірыліцаю як Вялікія Жуковічы. Не без літоўскага ўплыву Сянно лацінкаю пададзена як Sena, што значыць Старыя.

Не раз, едучы ў Магілёў, я любаваўся тым, што засталося ад касцёла ў Княжыцах. У гэтым выданні я знайшоў нарэшце кароценькія звесткі пра святыню, але засмуціла тое, што вёска названа Княжычамі. Ведама, сын князя — княжыч, але вёска ўсё-такі Княжыцы.




Што зусім выклікае неразуменне, дык гэта тое, што мапа сучаснай Беларусі пададзеная чамусьці на расійскай мове.

Думаю, што за моўныя недахопы і за гэтую мапу нароўні з аўтаркай трэба ўпікнуць і беларускіх кансультантаў абедзвюх кніг: прафесара Беларускага дзяржаўнага педагагічнага інстытута Анатоля Федарука ды Валянціна Стэха (Вільня). Праўда, першы з іх, калі верыць Беларускай Энцыклапедыі, — біёлаг, батанік. І хоць ён вывучае таксама старыя сядзібы, усё ж тое, што ён узяўся кансультаваць такога кшталту выданне, цалкам ляжыць на ягоным сумленні. Што да спадара Стэха, дык папросту не ведаю ягонай спецыяльнасці.

### Што спадчына, а што не?

Як вядома, Вялікае Княства Літоўскае скончыла сваё існаванне ў 1795 г., а калі кіравацца пастановамі Вялікага Сойму, дык у 1791 г. І зусім натуральна было б убачыць у разгляданых кнігах фотаздымкі твораў дойлідства гэтае і трохі пазнейшае пары.

Прыкладам, царква ў Масалянах (Берастаўіцкі раён) паўстала ў 1796 г. Ведама ж, будаваць яе пачалі на год ці больш раней. Але вось касцёл у Каменцы (Акмяне па-літоўску, Шчучынскі раён). Вядома, што гэта мураваная святыня ўзведзеная толькі ў 1908 г. Драўляная капліца ў Лошы (Алуошы) таксама пабудаваная ў пачатку мінулага стагоддзя. Па-мойму, гэтыя будынкі аніяк нельга аднесці да спадчыны Вялікага Княства. Не мае дачынення да спадчыны ВКЛ і касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў Астраўцы, бо пабудаваны ён у 1910–1911 гг. Або сінагога ў Іўі ды івейская ж мячэць: сінагога будавалася і дабудоўвалася ў XIX—XX стст., мячэць — у 1884 і 1922 гг.

Спрэчным ёсць і пытанне, ці трэба лічыць спадчынаю ВКЛ будынкі, рэканструяваныя да непазнавальнасці ў XIX і XX стст. або пабудаваныя ў тых самых стагоддзях на месцы страчаных будынкаў. Возьмем хоць бы пастаўскі касцёл святога Антона Падуанскага, узведзены ў стылі неаготыкі ў канцы XIX — пачатку XX стст. Ці была неаготыка ў перыяд ВКЛ? Па-мойму, пытанне рытарычнае.

У мяне ёсць падазрэнне, што Бірута Валёніце і яе мецэнаты (яны названыя) дзвюма кнігамі «Вялікае Літвы» далі своеасаблівы адказ на трохтомную беларускую энцыклапедыю «Вялікае Княства Літоўскае» (два першыя тамы выйшлі ў 2005 і 2006 гг.). Па-мойму, беларускія навукоўцы выглядаюць больш карэктна: яны, прынамсі, стараюцца не прыпісваць Вялікаму Княству таго, чаго ў ім не было.

# Шляхецкае братэрства ад Атлантыкі да Дняпра

**Выйшла кніга Уладзіміра Крукоўскага пра гербы беларускай шляхты. Рэдактары выкінулі з яе словы, што ў шляхецкіх спісах не сустракаюцца прозвішчы на -энка.**

Гэтая кніга шаснаццаць гадоў чакала выдання. Падрыхтаваная калісь да друку, яна здалася няправільнай новым ідэолагам РБ.

Перадусім таму, што яе аўтар — Уладзімір Крукоўскі, слынны плакатыст, мастак, які быў адным з аўтараў дзяржаўнай «Пагоні». Дагэтуль яго творы цэнзары здымаюць з мастацкіх выставаў.

Родам з Сапегавых Ружанаў, сам нашчадак старажытнага шляхецкага роду герба «Корвін», спадар Крукоўскі багата часу прысвяціў вывучэнню старадаўніх гербаў. І сёння ён справядліва ўважаецца за аднаго з самых абазнаных адмыслоўцаў у нашай краіне. Яшчэ ў пачатку 1990-х ягоныя артыкулы з гісторыі беларускае шляхецкае геральдыкі друкаваліся ў часопісе «Спадчына». Падсумаваннем яго даследаванняў стала гэтая кніга.

У хроніках згадваецца, як падчас падпісання Гарадзельскай уніі ВКЛ з Польшчаю ў 1413 годзе, польская шляхта абмянялася з нашай гербамі. Некаторыя даследчыкі цвердзяць, што да тае уніі ў Беларусі і Літве не было геральдыкі ў тагачасным еўрапейскім сэнсе. Але спадар Крукоўскі рашуча абвяргае гэта і падае свае аргументы.

З кнігі аматары могуць дазнацца, што адным і тым жа гербам маглі карыстацца самыя розныя сем'і ад Атлантыкі да Дняпра. Гэтак, гербам Ястрабец карысталіся больш за дзвесце сем'яў па ўсёй Еўропе. Барэйкі карысталіся гербам «Касцеша», як і яшчэ пару сотняў фаміліяў. Менавіта з гэткім сваім гербам пайшоў на Плошчу 19 снежня 2010 года кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч — нашчадак шляхецкага роду.

Кавалеўскія мелі цэлых восем гербаў, а Вольскія — ажно тузін! Гербы Брохвіч, Вадвіч, Гербурт, Зарэмба, Самсон, Сас, Ляліва прыйшлі ў нашу геральдыку з Нямеччыны; герб Котвіч — з Аўстрыі; Адравуж, Граблі, Парай, Дрыя, Окша, Павала — з Багеміі і Маравіі; Равіч — з Англіі; Лебедзь — з Даніі; Тарнава трапіў аж з вострава Родас; Гіпацэнтаўр, Геральт, Свінка, Корвін і герб Ладдзя паходзяць са старажытнага Рыма...

Былі і такія роды, што ўжывалі па некалькі гербаў. Напрыклад, тыя ж Барэйкі. Праўда, другога свайго герба яны тут не ўбачаць, як і Барждымскія, Барздынскія. Бо яго выява ў выглядзе дзвюх срэбных скрыжаваных пад простым кутом літараў Z, гэтак званы гамакрыж у блакітным полі, здаўся цяперашнім рэдактарам падобным да свастыкі...

Тыя ж рэдактары выкраслілі з тэксту Уладзіміра Крукоўскага наступны радок: *«У гістарычных шляхоцкіх дакументах не сустракаюцца прозвішчы на -ук, -юк, накшталт Клімук, Марчук, на -энка, -енка (Паўленка, Сцепаненка), на -онак, -ёнак»*.

Выглядае, што ў сённяшнім кіраўніцтве Беларусі шляхетных асобаў няшмат. Зрэшты, дзеля гэтага не трэба і глядзець у гербоўнікі.

Але сярод шырокай публікі цікавасць да гісторыі краю, да сваіх радаводаў расце няўхільна. І такое выданне выглядае натуральнай спробай яе задаволіць.

У новай кнізе змешчаны невялікі тэкст, напісаны лаканічнай і вобразнай моваю, з арыгінальнымі аўтарскімі высновамі, няшмат дакументаў, але затое вялікае ілюстрацыйнае багацце. Гэтая з густам афармленая кніга можа разлічваць на самы шырокі попыт. Каму ж не хочацца спраўдзіць сваё высакароднае паходжанне і пабачыць уласны герб.

**Сяргей Харэўскі**

**Крукоўскі Уладзімір. Срэбная страла ў чырвоным полі.** — Мінск: «Літаратура і мастацтва», рэдакцыя газеты «Звязда», 2010. 136 с., наклад 1000.



## Сцісла

• **Міліцыянт, які застрэліў дзяўчыну, сядзе на 18 гадоў.** Суд высьвятліў, што 31-гадовы ўчастковы быў накіраваны для аховы грамадскага парадку на тэрыторыі Званецкага і Жураўіцкага сельсаветаў Рагачоўскага раёна падчас Купалля. Замест гэтага ён, у форме і пры зброі, піў з двума супрацоўнікамі Рагачоўскага РАУС і знаёмымі дзяўчынамі. Затым беспадстаўна стрэліў у галаву 22-гадовай дзяўчыне, якая памерла ў рэанімацыі. Злачынца прызнаны вінаватым. Яму прызначанае пакаранне ў выглядзе 18 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

• **Крадзяжы складаюць у Мінску 70% злачынстваў.** Палова прыпадае на крадзяжы з транспартных сродкаў. Кожны сёмы крадзеж — кватэрны. Прычым тры чвэрці такіх здзейсненыя шляхам свабоднага доступу і толькі адна чвэрць — кваліфікаваным спосабам. Дзве траціны ўсіх кватэрных крадзяжоў здзейсненыя між 8.00 і 16.00 гадзінамі і пераважна ў працоўныя дні. Складаная сітуацыя і з кішэннымі крадзяжамі. Асаблівай папулярнасцю ў злачынцаў карыстаюцца сотавыя тэлефоны.

• **Жыхар Гомеля пабіў супрацоўніка ДАІ.** 25-гадовы хлопец падчас затрымання не менш як пяць разоў даў у твар міліцыянту. Супрацоўнікі ДАІ падчас дзяжурства спынілі аўтамабіль, што выклікаў падазрэнні, і папрасілі вадзіцеля, які быў п'яны, перасесці ў машыну ДАІ для разбору. Вадзіцель выйшаў, а ў гэты час яго пасажыр перасеў на вадзіцельскае месца, завёў аўтамабіль і паспрабаваў уцячы. Пачалася пагоня. Урэшце машына заехала ў тупік, і вадзіцель кінуўся наўцёкі. Супрацоўнікі ДАІ дагналі яго, але мужчына аказаў ім злоснае супраціўленне. Ён ударыў падпалкоўніка міліцыі некалькі разоў па твары. У выніку парушальнік, раней неаднаразова судзімы жыхар Гомеля, быў затрыманы.

• **У Мінску рыбак вылавіў труп мужчыны.** Мінчанін лавіў рыбу на рацэ Свіслач. Калі ён закідваў вуду, блешня зачапілася за нешта. Высветлілася, за куртку. Нябожчыку на выгляд 55—60 гадоў. Асоба і прычыны смерці высвятляюцца.

СМ



**Блізка ад Міністэрства ўнутраных спраў на праспекце згарэў мікрааўтобус. Гэда здарылася насупраць сталічнага кінатэатра «Цэнтральны», што амаль насупраць Галоўпаштамта, апоўдні 13 красавіка. Людзі баяліся набліжацца да месца пажару. Тэлефанаванне аб узгаранні паступіла ў МНС у 12:03. У 12:06 ратавальнікі былі ўжо на месцы, а ў 12:08 пажар патушылі. Прычына ўзгарання — няспраўнасць аўто.**

## КАНЦЭРТЫ



### Тройца

**27 красавіка у к/з «Мінск»** — этна-трыа «Тройца». **Пачатак а 19-й.**

### Азбука року

**22 красавіка а 19-й у Тэатры эстрады** — канцэрт «Азбука року». Тры мінскія гурты выканаюць найбольш вядомыя творы легендарнага гітарыста Рычы Блэкмара, гурта Rainbow і рок-вакаліста Роні Джэймса Дыя (Ronnie James Dio). Іграюць Flame, трыа Андрэя Казлоўскага і «Гаер».

### Мікалай Гнацюк

**27 красавіка ў ДК чыгуначнікаў** — канцэрт Мікалая Гнацюка. Яго «Танец на барабане», «Птушка шчасця» памятныя старэйшаму пакаленню. **Пачатак а 19-й.**

### Мінская вясна

**20 красавіка а 19-й у Вялікай зале філармоніі** — канцэрт фартэпіяннай музыкі з цыкла «Мінская вясна». Прагучаць творы Скарлаці, Бетховена, Ліста ў выкананні Барыс Блоха (Германія).

### Тузін Гітоў

**25 красавіка ў «Графіці»** — вечарына музычнага сайта «Тузін гітоў». **Пачатак а 19-й.**

### Open Music Fest II

**26 красавіка а 19-й у «Графіці (зав.Калініна, 16)** — Open Music Fest II. Бяруць удзел Hum Flying Bullet Proof Noodle, Floor Sixteen, E55.

### INTOUCH!

**22 красавіка а 19-й у галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а)** — першы дзень фестывалю Intouch!. Бяруць удзел Form und Zeit (Германія, Іспанія), Hatori yumi (Італія), імправізацыйны аркестр (Князь Мышкін, Уладзіслаў Бубен, Aortha)…

## ІМПРЭЗЫ

### Танцы

**Штачацвер ад 19-й да 23-й у кавярні «Жар-птушка»** адбываюцца беларускія танцавальныя вечарынкі. Вучаць ойру, падэспан, полькі, і не толькі. Кавярня месціцца ў парку Горкага. Уваход каштуе 8 тысяч рублёў з носа.

### Невядомая Беларусь

**22 красавіка на сядзібе ТБМ у 17.30** пачнецца вечарына «Невядомая Беларусь», падчас якой адбудзецца прэзентацыя кніг і паштовак мастака Юрася Малаша «Невядомая Беларусь», «Стварэнне свету», «Страна негодяев»…

### Месяц польскай літаратуры

**У цэнтры Мінска ў кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37а) 20 красавіка** — творчая лекцыя з паэтам і польскім перакладчыкам Набокава Лешэкам Энгелькінгам. **Пачатак а 19-й.** Вядучы — Андрэй Хадановіч.

## ВЫСТАВЫ

### Ван Дэйк і яго эпоха

**У Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе выстава «Ван Дэйк і яго эпоха» са збору Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Выстава дэманструе творы графікі і жывапісу XVII —XVIII стст., аб'яднаныя жанрам партрэта. Асноўную частку экспазіцыі складаюць гравюры Антоніса ван Дэйка (1599–1641) — знакамітага фламандскага мастака XVII ст., вучня і паплечніка Рубенса. Творы гэтага фламандскага майстра таксама ёсць на выставе.

### Коміксы, манга & Co

**У Мінску** працуе выстава «Коміксы, манга & Co.», на якой прадстаўленыя спецыяльна адабраныя працы трынаццаці нямецкіх мастакоў у жанры комікса. Гэтая вандроўная выстава, экспануецца **ў канферэнц-зале Інстытута імя Гётэ (вул. Харужай, 25)**.

### Даспехі Заходняй Еўропы

**У Музеі гісторыі вайны (Кастрычніцкая пл.)** працуе выстава калекцыі Сяргея Нурматава «Даспехі Заходняй Еўропы XVI — XVIII стст.». Гістарычныя рэканструкцыі даспехаў і ўзбраення выкананы з максімальнай набліжанасцю да арыгіналаў.

### Камічнае ў беларускай графіцы

**У Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20)** працуе выстава «Праз прызму ўсмешкі. Камічнае ў беларускай графіцы 1910—1990 гадоў». Аснову складаюць творы для часопіса «Вожык». Прадстаўленыя карыкатуры і сатырычныя малюнкі класікаў жанру: Анатоля Волкава (1908–1985), Сяргея Волкава (1942), Яўгенія Ганкіна (1922–1996), Грыгорыя Грамыкі (1921–1987), Мікалая Гурло (1914–1980), Віктара Ждана (1918–1978), Марка Жытніцкага (1903–1993), Сяргея Раманава (1914–2001), Валянціна Ціхановіча (1909–1978), Аскольда Чуркіна (1930–1985), Леанарда Чурко (1931–1983).

### Успамінаем 1980-я

**Галерэя TUT.BY** адкрыла новую фотавыставу Сяргея Брушко «Аскепкі з дзённіка». Сяргей Брушко вядомы як фатограф-дакументаліст. Але яго далікатныя і сапраўды лірычныя фотаработы вядомыя толькі адзінкам (большую частку работ, прадстаўленых у экспазіцыі, ніхто не бачыў). Выстава «Аскепкі з дзённіка» не закранае вострую сацыяльную і палітычную праблематыку, у якой быў моцны Сяргей Брушко. Гэта іншы бок майстра — яго погляд на штодзённасць беларускага жыцця 1980-х. **Выставу можна паглядзець да 6 мая 2011 года па адрасе: Харужай, 1а, 6 паверх.** Рэжым працы: панядзелак — пятніца, 9.00—18.00. Уваход вольны.

### Беларусі нацюрморт XX стагоддзя

**У Мастацкім музеі** працуе выстава «Беларускі нацюрморт XX стагоддзя». Большая частка прац напісаная ў другой палове стагоддзя.

### Аўтарэтра

**23 і 24 красавіка ў Гістарычным музеі** ажыве дворык 30—50-х гадоў мінулага стагоддзя: гульні, танцы, музыка, фатаграфаванне. Дэгустацыя кашы, бліны і рэтра-аўтамабілі.

Тэатры старадаўніх танцаў «Дэгрыза» і «Гістрыён» прадставяць тэатралізаваную прэзентацыю танцаў 30-х гадоў, развучаць з наведвальнікамі асноўныя фігуры танга, факстрота, вальса, штэрн-полькі і танцы заходнебеларускіх мястэчак 30-х гадоў. Канцэрт рэтра-музыкі пройдзе ў выкананні музычнага калектыву этнічнай музыкі народаў Еўропы «Кейлікёл». Сябры таварыства «Наша перамога» раскажуць аб прадстаўленых рэтра-аўтамабілях.

### Выстава памяці міністра БНР

**У Музеі Багдановіча (вул. Багдановіча, 7а) да 22 красавіка** працуе выстава «Чалавек — крыніца сілы», прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Аркадзя Смоліча — навукоўца і палітыка, аўтара першай «Геаграфіі Беларусі» і сябра Рады БНР.

### Парцаляна для каралёў

**У Мастацкім музеі да 10 мая** працуе выстава фарфоравай мануфактуры Херэнда «Парцаляна для каралёў». На выставе можна ўбачыць дэкаратыўныя вазы, прадметы з чайнага, абедзеннага сервізаў з дэкорам «Птушкі Ротшыльдаў».

### Новае жыццё старадаўніх абразоў

**У Мастацкім музеі да 22 мая** працуе выстава абразоў і алтарных карцін «Адкрыццё святой прыгажосці». На выставе экспануюцца 10 твораў тэмпернага і алейнага жывапісу XVII —XIX стст.



## ТЭАТРЫ

**21 красавіка**

**Лялек** — «Сіняя птушка»
**Оперы і балета** — «Рыгалета»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»

**22 красавіка**

**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Оперы і балета** — «Баядэрка»
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»

**23 красавіка**

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Маленькі Мук»
**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Беларускай драматургіі** — «Інфляцыя пачуццяў»

**24 красавіка**

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Беларускай драматургіі** — «Офіс»

**25 красавіка**

**Беларускай драматургіі** — «Самотны захад»

**26 красавіка**

**Оперы і балета** — «Тоска»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»

**27 красавіка**

**Оперы і балета** — «Жызэль»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»

**28 красавіка**

**Беларускай драматургіі** — «Жанчыны Бергмана»
**Юнага гледача** — «Апошняя дуэль»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

**29 красавіка**

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Шапеніяна. Пахіта. Трыстан і Ізольда»

**30 красавіка**

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Шапеніяна. Пахіта. Трыстан і Ізольда»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

**1 мая**

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»

## КІНО

### Прыватная ўласнасць

**(Nue propriete)**

Бельгія — Люксембург — Францыя, 2006, каляровы, 95 хв.
**Рэжысёр:** Яхім Лафос
**Ролі выконваюць:** Ізабэль Юпэр, Жэрэмі Рэн'е, Янік Рэн'е, Крыс Купенс, Патрык Дэкамп
**Жанр:** Драма
**Прэміі:** Намінацыя на «Залатога льва» Венецыянскага кінафэсту
**Адзнака:** 4,5 (з 10)

Разведзеная Паскаль жыве ў вялікім доме з двума сынамі-перарасткамі. Бацька адкупляецца ад сыноў, маці збіраецца сысці з палюбоўнікам і прадаць дом, а сыны кпяць з уласнае маці. У раскіданым сямейным гняздзе выспявае трагедыя…

Карціна Яхіма Лафоса — нуднаватая фестывальная драма пра эгаізм, інфантыльнасць і заняпад сям'і. Няспешны аповед пра пабытавае сямейнае пекла.

У гэтым пекле ніхто нікога не чуе, кожны сам за сябе, а замест любові — матэрыяльная залежнасць. Аскетычны фільм пазбягае сатыры, а Ізабэль Юпэр у галоўнай ролі непазнавальная. Фільм не ўратаваўся ад банальнасці.

**Андрэй Расінскі**



# Ад Антарктыды да Мальдываў

У Беларусі ёсць попыт на адпачынак за 60 тысяч еўра.

Сітуацыя нявызначанасці на валютным рынку адбіваецца і на турыстычнай сферы краіны. Нервовасць ахоплівае насельніцтва, якое рыхтуецца да адпачынкаў, але не можа набыць валюту, каб аплаціць пуцёўкі, візы і штосьці яшчэ ўзяць з сабой. Але гэта адносіцца да сярэдняга класа турыстаў. Тым часам у турагенцтваў ёсць і такія кліенты, якія могуць без пытанняў выкласці за адпачынак суму, роўную цане прыстойнай машыны ці нават кватэры.

На адпачынак складана выдаткаваць мала, а шмат — вельмі проста. Калі ў вас ёсць шмат лішняй валюты, то мы падкажам, як выдаткаваць яе лёгка і нязмушана.

### Мальдывы за 40 тысяч еўра на траіх

Дорага каштуе з шыкам злётаць на Мальдывы. Напрыклад, мінулай зімой з Беларусі на Мальдывы лёталі адпачываць у вілах One & Only Reethi Rah за 30—40 тысяч еўра на траіх за тыдзень. У кошт уваходзіў толькі нумар, разынка якога — размяшчэнне на беразе, у атачэнні пышнай зеляніны. Ёсць варыянт — на палях у лагуне. Інтэр'еры, сэрвіс, экзотыка — увесь набор задавальненняў прысутнічае. За пералёт бізнэс-класам беларусы выклалі яшчэ 30 тысяч еўра. Такім чынам, пры жаданні выдаткаваць 60 тысяч еўра, можна выправіцца адпачываць на Мальдывы і цяпер. Будзе трохі танней, паколькі там, кажуць, пакуль не сезон.



Антарктыда.

Беларускія тураператары пацвярджаюць — за вашы грошы на Балі, Мальдывах, Кубе можна арганізаваць любое свята: хоць карпаратыў, хоць вяселле.

### Паездка ў Антарктыду ці Арктыку

Ёсць у Беларусі і патрабавальныя кліенты, якія ўжо ўсюды пабывалі і якіх адпачынак на экзатычных выспах уганяе ў нуду. Такім беларускія турфірмы гатовыя прапанаваць... Антарктыду.

Летась «Сакуб» арганізаваў такі выезд для дзвюх сямейных пар. Праз Парыж беларусы вылецелі ў Аргенціну, дабраліся да Ушуая — самага паўднёвага горада планеты. Там селі на ледакол і выправіліся ў Антарктыду. Вандроўка на дваіх на працягу 12 дзён абышлася ў 13—15 тысяч даляраў. Авіябілеты на аднаго чалавека каштавалі яшчэ каля 1500 еўра.

Беларускія тураператары таксама прапануюць туры і на Паўночны полюс, дзе аматары ледзяной экзотыкі могуць атрымаць сеанс рэлаксу ў ледавіках.

### Кулінарны майстар-клас у радавым гняздзе прынцэсы Дыяны

Карыстаюцца папулярнасцю гастранамічныя туры ў Вялікабрытанію. Майстар-класы праводзяцца ў розных замках. Для асабліва патрабавальных кліентаў прапануецца, напрыклад, у пакоях прынцэсы Дыяны ў замку, дзе жыве сям'я Спенсар, майстар-клас па падрыхтоўцы салаты, дэгустацыі марціні. Часта да падобных тураў вызяўляюць цікавасць прадстаўнікі рэстараннага бізнэсу. Арганізацыя дэгустацыі каштуе каля 500 еўра, тур у цэлым каля 2500 еўра на чалавека на 5-7 дзён.

**Naviny.by**



Мальдывы.

## Сапраўдная беларуская кухня

### Вантрабянка (салцісон)

*Свіныя вантробы (печань, сэрца, лёгкія, абрэзкі з галавы, ныркі), 1 свіны страўнік, 250—300 г свежага свінога сала, 4 цыбуліны, 2 галоўкі часнаку, 1 ч. лыжка чорнага перцу гарошкам, 3 ч. лыжкі каляндры, 1 ч. лыжка маярану.*

Вантробы цалкам адварыць у адным катле да паўгатоўнасці цягам 1—1,5 гадзіны, затым нарэзаць дробнымі кубікамі (велічынёй 1 см). Гэтак жа нарэзаць сала, дробна насекчы цыбулю, часнок, буйна змалоць вострыя прыправы, усё змяшаць у аднародную масу, пасаліць і шчыльна набіць ёю старанна вычышчаны і вымыты свіны трыбух, пасля чаго пакласці на бляху і запячы ў не занадта гарачай духоўцы ці, лепш, упечы (бляху вышмараваць папяровым салам). Запечаны страўнік пакласці пад прэс (паміж двума дошкамі, верхнюю прыціснуць каменем) на 1,5 сутак.

**Падрыхтавала НБ**

## Прыватныя абвесткі

**СПАЧУВАННІ**

На 79-м годзе жыцця памёр вядомы лідскі краязнаўца і журналіст Алесь Васільевіч Жаўкоўскі. Выказваю спачуванні родным і блізкім нябожчыка. Аляксей.

**ЛІЦЭЙСКАЕ НАВУЧАННЕ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ**

Інфармацыя пра дзейнасць ліцэйскіх класаў з беларускай мовай навучання ў Гданьску (Польшча) і магчымасць навучання ў іх маецца ў Таварыстве беларускай мовы (вул. Румянцава, 13). Т.: (029) 639-27-15 (Ірына).

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

# У санаторыях будуць лячыць п'яўкамі

А «Сосны» уводзяць шведскі стол

Сярод навінак, прапанаваных беларускімі санаторыямі, — гірудатэрапія (лячэнне п'яўкамі) і касметалагічныя праграмы, якія будуць даступныя адпачывальнікам у санаторыі «Сосны» на беразе Нарачы. Гэты санаторый апрабуе і яшчэ адно новаўвядзенне, без якога нельга ўявіць адпачынак за мяжой, — пастаяльцам нумароў падвышанай камфортнасці будзе прапанавана харчаванне па сістэме «шведскі стол».

У санаторыі «Баравое» ў Докшыцкім раёне з'явіцца рэдкае для нашай краіны абсталяванне — апарат ударна-хвалевай тэрапіі, эфектыўны пры апорна-рухальных парушэннях.

У Юрмале беларусам прапануюць не толькі санаторны адпачынак, але і экскурсійна-аздараўленчыя туры: пры жаданні аздараўленне ў санаторыі можна будзе сумясціць з трохдзённай экскурсіяй у Рыгу і Стакгольм.

**Tio.by**

СЯМ'Я

# У Беларусі дазволяць рэгістраваць шлюб у гістарычных месцах

І дазволяць паскоранае заключэнне шлюбу.

У Кодэкс аб шлюбе і сям'і будуць унесеныя змены і дапаўненні. Адно з планаваных новаўвядзенняў — заключэнне шлюбу праз тры дні пасля падачы заявы ў ЗАГС (цяпер 15 дзён, калісьці было 3 месяцы). Акрамя таго, у маладых з'явіцца магчымасць ладзіць цырымонію шлюбу не толькі ў памяшканні ЗАГСа, але і за яго межамі — напрыклад, у памятных гістарычных месцах.

Людзі змогуць заключыць шлюб у любым ЗАГСе рэспублікі, а не толькі па месцы рэгістрацыі.

Пры скасаванні шлюбу суд будзе абавязаны вызначаць, з кім павінна знаходзіцца дзіця пасля разводу, а таксама парадак удзелу бацькі, які будзе пражываць асобна, у выхаванні дзіцяці і памер аліментаў. Усё гэта не будзе залежаць ад згоды бацькоў, калі толькі паміж бацькамі не будзе складзеная дамова пра дзяцей ці шлюбная дамова.

Кодэкс усталюе і максімальную розніцу паміж усынаўляльнікам і ўсынаўляным, чаго раней не было. Яна будзе складаць 45 гадоў.

**Яўген Васількоў**

КОЛЫ

# На праспекце Незалежнасці выдзеляць паласу для руху аўтобусаў

Кіроўцы абураныя: узнікнуць новыя заторы.

Крайнюю правую паласу на праспекце Незалежнасці ў Мінску выдзеляць для маршрутных транспартных сродкаў (аўтобусаў і маршрутак).

Паласа будзе адмежавана ад астатняй праезнай часткі дарогі перарывістай лініяй разметкі. Гэта значыцца, што для ажыццяўлення павароту направа кіроўца будзе абавязаны спачатку перастроіцца ў яе. Таксама будзе дазволена заязджаць на гэту паласу для пасадкі ці высадкі пасажыраў, калі гэта не створыць перашкоды для руху маршрутных транспартных сродкаў.

Кіроўцы засцерагаюць: гэта прывядзе да стварэння новых затораў. На некаторых участках праспекта (напрыклад, ля гатэля «Мінск») з чатырох палос дзве выдзеленыя для павароту налева. Калі будзе забаронены рух яшчэ і па правай паласе, то ўсёй плыні машын давядзецца ўціскацца ў адзіную свабодную паласу.

**ЯВ**

# Тэхагляд аўтамабіляў падаражэў на 25%

Цана на яго больш не рэгулюецца дзяржавай. Адпушчаныя цэны і на ўстаноўку ахоўнай сігналізацыі ў кватэрах.

Міністэрства эканомікі адмяніла некаторыя ранейшыя пастановы, якія датычыліся цэнаўтварэння.

У прыватнасці страцілі, сілу пастанова міністэрства ад 26 лютага 2004 года № 51 «Пра парадак фармавання тарыфаў на паслугі па ўсталёўцы ахоўнай сігналізацыі ў кватэрах» і пастанова ад 21 студзеня 2010 года № 11 «Пра зацвярджэнне прэйскуранта на паслугі па правядзенні дзяржаўнага тэхнічнага агляду транспартных сродкаў».

Цяпер кампаніі і прадпрымальнікі могуць самастойна вызначаць цану на гэтыя паслугі.

Першым адгукнуўся дзяржаўны «Белтэхагляд». За праход агляду ўладальнікі аўтамабіляў, якія працуюць на бензіне, павінны плаціць 35 700 рублёў замест 28 200 рублёў, а дызельных аўтамабіляў — 37 800 рублёў замест 29 900 рублёў. Рост цаны ў першы ж дзень склаў 26%.

**ЯВ**

КАМП'ЮТАР

# Выйшла новая версія самай папулярнай мапы Мінска CityInfo 2.8

Апошняя версія была датавана 2006 годам, а актуальнасць транспартных схем падтрымлівалася абнаўленнямі. Новая версія праграмы захавала старое ядро, затое прапанавала карыстальнікам абноўленую карту: даступны Мінск з прыгарадамі (Сокал, Сосны) і поўная нумарацыя дамоў, уключна з прыгарадамі і прыватным сектарам.

Бясплатна спампаваць праграму можна пасля рэгістрацыі на сайце fba.by.

**ЯВ**

# За тыдзень — Вялікдзень



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



DRUGOI.LIVEJOURNAL.COM

**У нядзелю беларусы ўсіх хрысціянскіх канфесій святкавалі Вербніцу. Праз тыдзень усе разам святкуем Вялікдзень.**

**А ў Венгрыі на Вербніцу ёсць народная традыцыя — абліваць вадой дзяўчат.**

**Беларуская дзявочая тэнісная зборная ўсухую перамагла эстонак — 5:0 падчас спаборніцтваў Кубка Федэрацыі і выйшла ў Сусветную групу II. КФ — гэта найбуйнейшы міжнародны турнір па тэнісе сярод жанчын, аналаг мужчынскага Кубка Дэвіса. На фота: Дар'я Кустава.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Анекдоты

* * *

Урад зацвердзіў спіс тавараў, цэны на якія будуць рэгулявацца. Валюта, на вялікі жаль, у гэты пералік не трапіла.

* * *

Лукашэнка суцяшае народ: «Ажыятаж на валютным рынку пройдзе пасля падвышэння мытаў на аўтамабілі. Вам проста будзе не да валюты...»

* * *

Згодна з апошняй дырэктывай ЦБ РБ, з 01.05.2011 валютныя крэдыты можна пагашаць алеем, грэчкай альбо цукрам.

* * *

— Ты чуў? Мясніковіча запрасілі ў Зімбабвэ.

— Яго ж там з'ядуць!

— Цалкам магчыма: прозвішча ў яго вельмі апетытнае.

* * *

Як высветліла следства — вінаватымі ў моцных снегападах у лютым былі сіноптыкі. Сіноптыкі раскаяліся і абяцалі надалей размяркоўваць снег раўнамерна на ўвесь зімовы перыяд.

* * *

Нішто так не выклікае павагі на дарозе, як МАЗ з трыкутнічкам «У» на заднім шкле.

* * *

Вырашыў пачаць з панядзелка новае жыццё. Спадабалася, незаўважна ўцягнуўся. Цяпер з кожнага панядзелка пачынаю новае жыццё і яшчэ ні разу пра гэта не пашкадаваў.

* * *

Буйны бізнэс — гэта дробны да падатка-абкладання.

* * *

Больш за ўсё глупстваў цягам дня робіць чалавек, які рана ўстае і позна кладзецца.

* * *

Раней першым у новую хату пускалі ката. Цяпер традыцыя парушаная — першым пускаюць перфаратаршчыка!

* * *

З кухні чуецца грукат і звон шкла, якое б'ецца.

— Што ты там робіш, любая?

— Нічога, любы, усё ўжо зроблена.

* * *

Поспеху дасягае толькі той, каго своечасова не папярэдзілі, што гэта немагчыма.

* * *

Калі адамрэ тэлебачанне?

— Калі час запампоўкі фільма з інтэрнэту стане карацейшым за рэкламную паўзу.

* * *

— Чаму ты да гэтага часу не пагаліўся? Мы ж ідзём у тэатр!

— Я галіўся.

— Калі?!

— Калі ты пачала апранацца...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Архангельск.** Застрэліўся начальнік следчага аддзялення Раскатаў. З такой вось прычыны. Архангельскі мільянер Кастагораў дастаў ліст з подпісам быццам палітычных ссыльных, у якім пісалася, каб на вядомым месцы Кастагораў паклаў 500 рублёў. Калі ж гэтага не зробіць, дык адзінай яго дачцэ твар абліюць серчаным квасам [сернай кіслатой]. Кастагораў пайшоў да жандармскага начальніка, каторы пастанавіў зрабіць аблаву. Кастагораў у прызначаныя час і месца прынёс 500 рублёў. Пасля жандармы пабачылі мужчыну, што кіраваўся да месца, дзе былі пакладзеныя грошы. Выскачылі і кінуліся на незнаёмага. Вельмі аднак здзівіліся, калі ў злоўленым пазналі начальніка следчага аддзялення Раскатава. Тлумачыўся Раскатаў, быццам ён ішоў таксама лавіць злачынцаў. Але ўсім вядома было, што ніхто не паведамляў Раскатаву ні пра пісьмо, ні пра аблаву. Маючы да выбару няславу або смерць, Раскатаў выбраў апошнюю.

**«НН». № 15. 1911**

**Што за чалавек?** Дыверсант, чэкіст, опер, асабіст... Прафесія — ліквідацыя людзей. 50 гадоў біяграфіі Ваўпшасава прыпадаюць на Беларусь. Наша краіна вачыма тэрарыста...

**«НН». № 16. 2001**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7260.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 19.04.2011.
Замова №1845.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 11015